© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 27 (2147) Год XLII Беласток 6 ліпеня 1997 г. Цана 1 зл.



*Летняя ноч у фотааб'ектыве Сяргея Грынявіцкага.*

# Не баяцца жніва

Неўзабаве жніво. Пасля доўгай, але адносна лагоднай зімы і даждлівай вясны збожжа вырасла прыгожа. Калі ўдасца пагоднае лета, плён будзе большы, чымсьці чакалі. *Зноў бяда,* — пракаментаваў гэты прагноз адзін гаспадар на сустрэчы ў бельскім элеватары з прадстаўніком амерыканскага агенства *VOCA (Volunteers in Overseas Cooperative Assistance).* Сустрэча праходзіла 17 чэрвеня і была прысвечаная прэзентацыі такіх развязак у гандлі збожжам, каб не баяцца добрага ўраджаю.

*VOCA* працуе ў 90 краінах свету ўжо звыш 20 гадоў. Дапамагае ў развіцці сельскай гаспадаркі і галін, звязаных з перапрацоўкай пладовых прадуктаў. Павышае эфектыўнасць гаспадарання і ўзровень жыцця вытворцаў харчоў.

У Польшчы *VOCA* дзейнічае ад 1990 года. Тры гады пазней прадстаўнік арганізацыі Джо Алэн апрацаваў рапарт пра польскі збожжавы рынак, з асаблівым націскам на праблемы яго скупкі і захоўвання. У рапарце звярнуў ён увагу на адсутнасць у нас сучасных формаў абароту збожжам і запрапанаваў Пілатажны праект па захоўванні і гандлі збожжам (*Grain Storage and Marketing Project*). Спачатку быў ён правераны ў Альштынскім аддзеле Агенцтва сельскагаспадарчага рынку. Ад 1995 года вядуцца працы над пашырэннем праекта на ўсю краіну. Дзеля гэтага са звыш ста ахвотных былі адабраныя 27 элеватараў, якія павінны ў сёлетняе жніво пачаць скупку паводле новых прынцыпаў. Сярод іх апынуўся элеватар у Бельску.

Прапанаваная рэформа ідзе ў тым напрамку, каб гаспадар мог у жніво засыпаць збожжа ў элеватар і заставацца надалей яго ўласнікам. За збожжа атрымае ён пасведчанне складу, якое дазваляе браць банкаўскія крэдыты. Прадаць збожжа гаспадар можа ў любы момант, калі палічыць гэта карысным. Новы ўласнік атрымлівае толькі пасведчанне складу, а збожжа застаецца на тым самым месцы. Так могуць памяняцца і дзесяткі ўласнікаў, без перамяшчэння збожжа. Датуль, пакуль хтосьці не зажадае яго выдачы.

Сістэма гэтая выгадная перш-наперш гаспадарам. Не трэба трымаць зерня ў свірнах. Увесь час вядомая яго вартасць, таму на месца замарожаных у ім грошай можна браць пазыку ў банку. Выгадная таксама элеватарам, бо становяцца яны праверанымі рынкавымі партнёрамі (а праверка тут будзе многаступенная і надзвычай дакладная). Выгадная пакупнікам, бо маюць пэўнасць адносна якасці прапанаванага ім тавару.

Так мае быць. Як у Амерыцы. Аднак мы жывем у Польшчы і нашы ўмовы крыху адрозніваюцца ад амерыканскіх. Па сённяшні дзень няма адпаведных законаў для таго, каб праект запрацаваў поўнасцю эфектыўна. Банкі не дадуць пад залог прэферэнцыйнага крэдыту, адно камерцыйны (на 24%), а на гэта не пойдуць гаспадары. Чаму тады, рашылі ажыццяўляць гэты праект?

— Каб мяняць менталітэт гаспадароў, — сказаў прадстаўнік *VOCA* Адам Рытэлеўскі. — Каб яны вучыліся выбіраць з ліку розных прапаноў найлепшыя для сябе развязкі. Мы перакананы, што прапанаваная намі сістэма, якая спраўдзілася ў Амерыцы, прымецца праз некалькі гадоў і ў Польшчы. Мы пачынаем у варунках далёка не камфартабельных, але, я веру, яны павінны мяняцца. У лепшым становішчы будуць тыя, хто хутчэй зразумее прынцыпы, якімі кіруецца сучасны збожжавы рынак.

**Мікола Ваўранюк**

# Купалле

Набліжаецца час купальскіх гульняў. Традыцыйна ўжо беларускія дзеячы розных арганізацый і ў гэтым годзе рыхтуюць насельніцтву Беласточчыны шмат атракцыёнаў. Ужо само вогнішча над рэчкай, мелодыі народных песняў ва ўсялякіх інтэрпрэтацыях і рэха, узнікаючае падчас сутыкнення шклянкі з бутэлькай, з'яўляюцца дадатковымі элементамі, якія ўплываюць на чароўнасць купальскай ночы.

Беларусы, як сяляне, заўсёды былі традыцыяналістамі. Хаця, пакінуўшы свае вёскі і пасяліўшыся ў гарадах, яны як бы апынуліся ў іншай культурнай прасторы, аднак усё-такі ў глыбіні душы, у сферы псіхічных перажыванняў, асталіся гэтым жа самым людам. Ноч і натоўп ствараюць атмасферу ананімнасці, навокал усе і ўсё „сваё". У купальскую ноч „нашы" палякі пераўтвараюцца ў „тожа беларусаў". Гэта, здаецца, асноўная метафізічная з'ява, якая сёння наступае ў першую ноч лета.

Старажытная абраднасць купальскай ночы ў сапраўднасці адышла ў нябыт. Раней гэта была абраднасць маладых земляробаў. У рэпертуар гульняў жыхароў Беласточчыны вярнулі яе пры канцы васмідзесятых гадоў хлопцы і дзяўчаты з Беларускага аб'яднання студэнтаў. Пасля прадаўжаць традыцыю ўхапіліся ветэраны беларускага руху на Беласточчыне.

Старажытныя беларусы вельмі сур'ёзна рыхтаваліся да гэтага святкавання. Напярэдадні купальскай ночы дзяўчаты ішлі на лугі і палі збіраць зёлкі. У гэты дзень мелі яны асаблівую лекавую моц. З польных кветак сплягалі вянкі, якія ноччу пускалі на рачную плынь. З руху вянка варажылі адкуль прыплыве ў будучыні муж. На купальскае вогнішча прыносілі з вёскі старыя, непатрэбныя прадметы. Агонь вогнішча ачышчаў свет ад усялякай непатрэбшчыны, а ў гэтую ноч меў ён асаблівую магічную моц. Таму вакол вогнішча спявалі і танцавалі ўсю ноч, скакалі цераз агонь, а пасля купаліся ў рэчцы, качаліся па расе, ядналіся з прыродай. Гэта была ноч цудаў. Рэкі свяціліся прывідным святлом, дрэвы, птушкі, звяры гаварылі з людзьмі, здраджваючы таямніцу натуры. Наступаў час перамогі жыцця над змрочнымі сіламі. Агонь і вада былі асноўнымі элементамі пераўтварання свету і прадаўжання жыцця.

Купалле было язычніцкім святам маладзі, спантаннасці, надзеі і жыццятворных сіл прыроды. Адлюстроўвала яно найглыбейшую духоўнасць беларусаў — прадаўжанне жыцця ў гармоніі з сіламі прыроды, з ляснымі і рачнымі багамі. Не было тут элементаў агрэсіі, так характэрнай культавай абраднасці суседніх народаў.

Сучаснае святкаванне купальскай ночы пераўтварылася ў нейкую карыкатуру філасофіі нашых продкаў. Але таксама з'яўляецца яно хутчэй за ўсё формай тэрапіі нашага гарадскога люду.

**Яўген Мірановіч**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Мы прачыталі

*Politycy lgną do telewizji*, — інфармуе

*Gazeta Wyborcza, nr 138*

**Таму праграмы, якія варта аглядаць, пачынаюцца пасля поўначы.**

* * *

*W telewizji Polacy najczęściej oglądają prognozę pogody. W kategorii programów rozrywkowych największym wzięciem cieszą prymitywne gnioty w rodzaju „Śmiechu warte" czy „Randka w ciemno". Najmniej popularne są programy z muzyką poważną, teatr telewizji, magazyny kulturalne.*

*Polityka, nr 25*

* * *

*Беларуская інтэлігенцыя павінна рабіць тое, што заўсёды рабіла асвечаная частка нашага народа. Належыць трымацца звычайнага кодэксу — не зганьбіць добрую славу сям'і, вёскі, роду, не прадаць свайго імя, сваіх родзічаў, знаёмых, суседзяў. Не стаць на шлях Юды.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 22*

* * *

*Jestem skłonny z moich podatków finansować, a nawet kochać posłów — jeśli konstytucja ustanowi taki wymóg — ale pod warunkiem, aby nic nie robili. W krajach Europy, do której właśnie zmierzamy jest taki wymóg, aby istniała instytucja dostarczająca obywatelom rozrywki, zwana parlamentem. Dlatego jeżeli posłowie chcą jechać na Karaiby — proszę bardzo, na Seszele — proszę bardzo. Niech tylko nie myślą jak uszczęśliwić współobywateli. Niedawno Sejm uchwalił zakaz palenia za kierownicą, wydał ustawę o psach, teraz z całą powagą zajmuje się miotaczami jaj. Jedźcie panowie posłowie już na urlop*, — піша Людвік Стома.

*Polityka, nr 23*

* * *

*У нас появились юристы*, — інфармуе

*Народная газета, н-р 111*

**Юрыстамі сталі адвакаты, якіх оптам прынялі ў рады прэзідэнцкай службы.**

* * *

*Беларусь праводзіць самастойную знешнюю палітыку*, — заявіў Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка.

*Звязда, н-р 95*

*Мы тоже уже хотим дружить с НАТО*, — піша

*Белорусская газета, н-р 20*

* * *

*Камітэт абароны журналістаў — арганізацыя, якая дакументуе і рэагуе на парушэнні свабоды прэсы ва ўсім свеце, вызначыла дзесятак ненавіснікаў свабоды слова. Да лідэраў турэмшчыкаў духу былі ўлічаны кіраўнікі: Кубы Фідэль Кастра і Кітаю Дзян Цзэ Мін, лідэры ваенных хунтаў у Бірме і Нігерыі, дыктатар Інданэзіі, прэзыдэнт Албаніі, прэм'ер-міністр Турцыі. На шостым месцы гэтага славутага спіску — прэзыдэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.*

*Беларус, н-р 444*

* * *

*У калгасе „Савецкі пагранічнік", што ў Камянецкім раёне адбылася міжнародная канферэнцыя „Рака Буг — рака дружбы і добрасуседства. Беларусы прыбужскага памежжа". Як адзначыў старшыня таварыства „Радзіма" У. Мялешка — сустрэча гэта яшчэ адна сур'ёзная спроба ўмацавання сувязяў з нашымі суайчыннікамі, якія жывуць у суседняй краіне, духоўнага далучэння іх да гісторыі, культуры і нацыянальных традыцый беларускага народа, і па гэтай выснове выхаванне пачуцця павагі, патрыятызму і ўмацавання міру.*

*Голас Радзімы, н-р 23*

Замежнымі ўдзельнікамі канферэнцыі былі старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Ян Сычэўскі і старшыня Камітэта пабудовы музея ў Гайнаўцы Кастусь Майсеня.

* * *

*Кожны беларускі грамадзянін, які ўнёс значны ўклад у развіццё краіны і паляпшэнне жыцця народа павінен быць заўважаны — гучыць пастанова лукашэнкаўскага Сената, які называецца Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.*

*Народная газета, н-р 110*

* * *

*Дыялог Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі з апазіцыяй будзе пачаты каб паляпшаць адносіны з Захадам. Улада згадзілася гаварыць з палітычнымі сіламі, якія пацярпелі паражэнне падчас канстытуцыйнага крызісу толькі пад уплывам знешнепалітычных абставінаў. Пасля лістападаўскага рэферэндуму, які аддаваў усю ўладу прэзідэнту, кіраўніцтва Беларусі лічыла, што Захад змірыцца з новымі рэаліямі.*

*Звязда, н-р 101*

Лукашызм выразна апынуўся ў стане эрозіі.

* * *

*Беларуская дыяспара за мяжой адчувае роспач і вялікую трывогу.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 21*

Калі гаворка пра Беласточчыну, мы ўпэўнены, што калі б Лукашэнка меў магчымасць балаціравацца на якіх-небудзь выбарах, выйграў бы іх з падтрымкай 80 працэнтаў тутэйшых беларусаў. Астатнія могуць сабе распачаць.

# З мінулага тыдня

**Прэм'ер-міністр Владзімеж Цімашэвіч** стварыў **Міжведамасны калектыў па справах нацыянальных меншасцей**. Старшыня сеймавай Камісіі п/с нацыянальных і этнічных меншасцей **Яцэк Курань** сказаў, што стварэнне гэтай установы дазволіць на больш спраўнае вырашанне пытанняў нацыянальных меншасцей. Падчас арганізаванай Міністэрствам унутраных спраў і адміністрацыі сустрэчы з прадстаўнікамі нацыянальных меншасцей Яцэк Курань звярнуў увагу, што да гэтай пары ў структурах улады не ставала цэнтра, які каардынаваў бы дзеянні на карысць меншасцей. „Задачай калектыву ёсць такое фарміраванне пастаў палякаў. каб пражываючыя ў нашай краіне прадстаўнікі меншасці маглі адчуць, што Польшча таксама з'яўляецца і іх айчынай", — сказаў Я. Курань.

**Польшча — гэта аднародная дзяржава**, — заявіў прэм'ер-міністр **Владзімеж Цімашэвіч**, — і не будуць стварацца аўтаномныя рэгіёны. Прэм'ер такім чынам выказаў сваю пазіцыю наконт ідэі юрыдычнага прызнання шлёнскай нацыянальнасці.

**22 чэрвеня** — у гадавіну нямецка-савецкай вайны — ля Помніка ахвяр у Грабаўцы каля Беластока адбыліся рэлігійна-патрыятычныя ўрачыстасці з удзелам ветэранаў і школьнай моладзі. У лесе каля Грабаўкі ў 1941-1944 гадах немцы расстралялі шаснаццаць тысяч чалавек: палякаў, беларусаў, яўрэяў і савецкіх ваеннапалонных.

**Універсітэт у Беластоку** пачне працу 1 кастрычніка г.г. Аб гэтым вырашыў Сейм, які прыняў пастанову аб стварэнні на базе Філіяла ВУ самастойнага універсітэта (365 паслоў галасавала за, 8 было супраць і столькі ж устрымалася). Філіял Варшаўскага універсітэта паўстаў у Беластоку 29 гадоў таму. Цяпер на пяці аддзяленнях вучыцца 12,5 тысячы студэнтаў, а з ліку 671 акадэмічных настаўнікаў 121 мае статус самастойнага навуковага супрацоўніка.

**Асветная кнігарня** ў Беластоку, якая паўстала пры Інстытуце ўдасканальвання настаўнікаў, пачала сваю дзейнасць. Дырэктар Інстытута **Янка Зенюк** падкрэсліў, што стварае яна адпаведную базу для ўдасканальвання і развіцця настаўніцкіх кадраў. Кнігарня „Oświatowa" змяшчаецца на рагу вуліц Сянкевіча і Злотай. Прапануе яна настаўнікам і вучням падставовых і сярэдніх школ 2 тысячы найменняў падручнікаў, слоўнікаў, энцыклапедый, метадычных дапаможнікаў і мультымедыяльных выданняў.

**У Беластоку** адбыўся традыцыйны летні міжнародны кірмаш **Дні беластоцкай гаспадаркі**. На працягу трох дзён свае вырабы паказалі больш за 80 айчынных фірмаў і гандлёвых місій з-за ўсходняй мяжы. 20 чэрвеня прайшла тут прэзентацыя гаспадарчай і прамысловай прадукцыі, якая вырабляецца ў Гродне. У рамках кірмашу адбыўся дускусійны форум прысвечаны гандлёвым кантактам з Усходам.

**У Белавежы** адбылася прэс-канферэнцыя галоўнага каменданта Гранічнай аховы **Анджэя Анклевіча**. Гутарка на сустрэчы датычыла разбудовы сістэмы аховы граніцы, на якую на працягу трох гадоў спатрэбіцца каля 540 млн. зл. На пытанне аб магчымасці зрабіць граніцу больш шчыльнай генерал адказаў, што трэба яе ахоўваць пры дапамозе аперацыйнай работы і інфармацыі аб тым, што дзеецца на пагранічччы, паколькі ёсць у нас кантрабандысцкія вёскі, жыхары якіх жывуць з нелегальных імігрантаў і кантрабанды. У мінулым годзе ўсходнюю граніцу Польшчы перайшло 7,5 тысячы нелегальных імігрантаў.


## Неўзабаве ў „Ніве"

- Рэпартаж з Беларусі Алега Латышонка.
- Пра 93-гадовага гаспадара з Падалян — піша Алена Анішэўская.
- Васіль Петручук у палеміцы з Міхасём Куптэлем.


# Весткі з Беларусі

**З'езд БНФ**

У Менску, з удзелам 375 дэлегатаў, адбыўся IV З'езд Беларускага народнага фронту. Удзельнікі прынялі шэсць пастаноў адносна ўнутранай і знешняй сітуацыі краіны, у якіх даецца крытычная ацэнка ідэі беларуска-расейскай інтэграцыі і выказваецца занепакоенасць у сувязі з застоем у беларускай культуры і адсутнасцю дэмакратычных свабод у краіне. Старшынёю БНФ паўторна выбраны Зянон Пазняк, які знаходзіцца на эміграцыі (праграмны даклад дэлегаты заслухалі з відэакасеты). Гэты выбар абазначае працяг ранейшай палітыкі БНФ. накіраванай на абарону суверэнітэту Беларусі і дэмакратызацыю публічнага жыцця. Напярэдадні з'езду арыштаваны быў намеснік старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі, якога завочна прагаварылі да 5 дзён турэмнага зняволення за арганізацыю адной з ранейшых антыпрэзідэнцкіх дэманстрацый. Аднак на з'езд Л. Баршчэўскага адпусцілі пад умовай, што ён пасля з'езду добравольна вернецца ў турму для адбыцця пакарання.

**Размовы з апазіцыяй**

Першыя вынікі сваёй дзейнасці падвяла рабочая група з Еўрапейскага Саюза, якая некалькі дзён знаходзілася ў Беларусі і ўдзельнічала ў гутарцы за круглым сталом па вырашэнню некаторых пытанняў, што ўзніклі ў апошні час паміж уладай і апазіцыяй. Прадстаўнік ЕС Мецью Расэл паведаміў, што дасягнута ўступнае паразуменне паміж усімі ўдзельнікамі перамоў. Наступнае пасяджэнне круглага стала адбудзецца ў ліпені. Як мяркуецца, у цэнтры ўвагі яго ўдзельнікаў будуць пытанні больш дасканалага раздзялення правоў і абавязкаў усіх галін улады.

**НАТОўскае запрашэнне**

Кіраўніцтва НАТО накіравала прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку запрашэнне прыняць удзел у пасяджэнні Паўночнаатлантычнага савета на ўзроўні кіраўнікоў і членаў урадаў краін-членаў НАТО, якое адбудзецца ў Мадрыдзе ў ліпені. Гэта стала вядома пасля візіту міністра абароны Аляксандра Чумакова ў Брусель, дзе ён прымаў удзел у пасяджэнні Савета еўраатлантычнага партнёрства на ўзроўні кіраўнікоў абаронных ведамстваў.

**Парламенцкае Анты-НАТО**

Беларускія парламентарыі заснавалі ініцыятыўную групу па стварэнні руху Анты-НАТО, — паведаміў намеснік старшыні Камісіі па міжнародных справах і сувязях з СНД Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Сяргей Касцян, які ўзначаліў ініцыятыўную групу. У групу ўвайшлі 16 народных выбраннікаў. аднак за ажыццяўленне гэтай ідэі гатовы далучыцца 90% дэпутацкага корпусу. Касцян паведаміў, што восенню будзе праведзены кангрэс славянскіх народаў, на якім усе ініцыятыўныя групы сальюцца ў адзіны магутны антынатаўскі рух.

**Праведныя беларусы**

Чарговае ўручэнне дыпломаў „Праведнікаў народаў свету" і адпаведных памятных медалёў беларускім сем'ям, якія ратавалі ў гады Вялікай Айчыннай вайны яўрэяў, адбылося ў Краязнаўчым музеі Барысава. У цырымоніі ўзнагароджання прыняў удзел паверены ў справах Ізраіля ў РБ Зеяў Бенар'ес. У час знаходжання ў горадзе над Бярэзінай дыпламат наведаў Барысаўскі крыштальны завод і Завод медыцынскіх прэпаратаў.

**Ушанаванне кампазітара**

Званне ганаровага грамадзяніна расійскага горада Сальска прысвоена народнаму артысту Савецкага Саюза і Беларусі Ігару Лучанку. У гэтым горадзе кампазітар правёў юнацкія гады, тут засталіся ягоныя настаўнікі і сябры. Лучанок зараз часта наведвае Сальск, знаёміць яго жыхароў са сваёй творчасцю.

**Конкурс лесарубаў**

Адбыўся абласны конкурс лесарубаў Магілёўшчыны, які праходзіў па правілах міжнародных чэмпіянатаў — па пяці відах праграмы. Удзельнікі яго спаборнічалі ў майстэрстве па валцы лесу, абрэзцы сучча, камбінаваным і дакладным распілоўванні бервяна, разборцы пілы. Першынство ў мнагабор'і заваяваў вальшчык лесу з Гарэцкага лесгасу Аляксей Шанчук, які набраў 1459 ачкоў.



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Сезон у Дубічах пачаўся

Жыхары Бельска, Гайнаўкі, не кажучы ўжо пра бліжэйшыя Кляшчэлі, Чаромху ці Орлю, лічаць натуральнымі летнія выезды на паругадзіннае купанне ў Дубічы-Царкоўныя. Невялікае вадасховішча Бахматы, створанае на рэчцы Арлянцы ўсяго тры кіламетры ад яе вытокаў — у маляўнічай далінцы, на самой ускраіне Белавежскай пушчы — так упісалася ў навакольны краявід і свядомасць людзей, што мала хто памятае пра яго малады ўзрост. А было яно пабудаванае ўсяго адзінаццаць гадоў таму, у 1986 годзе. І ўсё паказвае, што была гэта вельмі трапная інвестыцыя ўладаў малой і небагатай гміны.

У нядзелю 22 чэрвеня на беразе азярца прайшоў народны фэст, які адкрыў летні турыстычны сезон у Дубічах. Надвор'е паспрыяла, таму людзей, не толькі мясцовых, з'явілася шмат. Маглі яны паслухаць канцэрт мясцовага эстраднага гурту, „Хлопцаў-рыбалоўцаў", „Рэчанькі" з Козлікаў, вакальнага калектыву з Гайнаўскага беларускага ліцэя, які мае ў рэпертуары народныя і царкоўныя песні, паглядзець тэатральнае мастацтва вучняў дубіцкай школы. Непаседлівыя маглі пагуляць у футбол, валейбол, паспаборнічаць у перацягванні каната або ў выжыманні гіры. Знайшліся першыя аматары плавання. На пытанне, чаму летні сезон над Бахматамі адкрываецца так урачыста, старшыня Гміннай рады ў Дубічах-Царкоўных Сяргей Нічыпарук адказаў:

— А што нам больш адкрываць? У нас жа няма ніякіх фабрык, стадыёнаў, вялікіх канцэртных залаў. Адзінае наша багацце, гэта прырода, незатручаная зямля і чыстае паветра. Гэтыя вартасці не выкарыстоўваюцца, не разрэкламаваныя як след, таму нам тут жыць не лёгка. Але маем надзею, што гэта будзе памалу змяняцца, што прыедуць да нас людзі, хаця б тыя, якія адсюль выехалі і іх знаёмыя, што будзе развівацца агратурызм.

Каля вадасховішча пачынае ствараць турыстычная база. Гміна пабудавала два летнія дамы на трыццаць месцаў з прыстойнымі ўмовамі. Можна тут наняць лодкі, байдаркі, водныя ровары. Даўжыня вадаёма — 800 метраў — дазваляе плаваць нават на невялікіх парусных лодках.

Аматары адпачынку з вудай таксама будуць задаволены. У вадзе багата рыбы: плотка, лешч, амур, шчупак. Водзяцца нават ракі, а ніжэй плаціны — бабры, што сведчыць пра чысціню вады.

— Пра экалогію Белавежскай пушчы дбаюць розных масцей спецыялісты з Польшчы і ўсяе Еўропы, — кажа Сяргей Нічыпарук, — але ці менш важныя людзі? Наша гміна кожны год усё меншае. Старыя паміраюць, маладыя адсюль выязджаюць, на іх месца не родзяцца новыя. Тутэйшаму беларускаму народу, створанай ім на працягу стагоддзяў культуры пагражае смерць, калі не знойдзем выхаду з тупіка. Магчымасці ў нас абмежаваныя, на чужую дапамогу разлічваць не можам, таму мусім навучыцца разумна выкарыстоўваць тое, што маем. А менавіта, я яшчэ раз гэта падкрэслю, прыроду.

Хацелася б, каб гэтае лета, якое над Бахматамі пачалося з беларускіх песень, стала пачаткам турыстычнага буму ў Дубічах-Царкоўных. Але да яго, баюся, яшчэ далёка.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота аўтара*



*Каля вадасховішча Бахматы людзі адпачывалі слухаючы беларускія песні.*

# Хто вінаваты

У канцы 1995 года швагер з Дубяжына перапісаў на мяне 0,36 га сенажацяў. Поле знаходзіцца на тэрыторыі гміны Орля.

Дакументы афармляліся натарыусам, і былі зацверджаны судом у Бельску-Падляшскім. Калі я стаў законным уладальнікам поля, 23 студзеня 1996 г. паслаў прашэнне ў Арлянскую гміну, каб мне прыслалі адпаведнае пасведчанне аб уласнасці. З гміны паступіў адказ, што дакументаў маіх не прыслалі з раённай геадэзіі.

1 лютага 1996 г. будучы ў Бельску-Падляшскім я наведаў геадэзічную службу. Паспрабаваў высветліць сваю справу.

— Дакументы мы зразу паслалі ў Орлю, — пачуў я ў адказ.

— Тыдзень таму мне гаварылі, што іх там няма...

У маёй прысутнасці адбылася тэлефонная размова паміж чыноўнікамі з Бельска і Орлі.

— Ёсць дакументы ў Орлі. Неабходнае пасведчанне будзе вам даслана ў Чаромхаўскую гміну — сказала працаўніца бельскай геадэзіі.

Так і было.

У сакавіку 1996 г. я заплаціў падаходны падатак згодна з пісьмом атрыманым з Чаромхаўскай гміны, у тым ліку і за 0,36 га сенажацяў з урочышча „Пухава" (гміна Орля).

І ўсё здавалася быць у парадку. 8 чэрвеня г.г. наведаў я швагра ў Дубяжыне. Вельмі здзівіўся, калі пачуў ад яго, што за маю палоску сенажацяў і ад яго патрабавалі заплаціць падатак.

— Я сам мусіў ехаць у Орлю і заплаціць за цябе 18,70 зл., — гаварыў швагер.

— Я ж заплаціў ў Чаромсе...

Гляджу і вачам не верыцца. У руках трымаю наказ № 230073/1997 ад 4 сакавіка 1997 г. у якім гаворыцца, што Якančук Дзмітры с. Сцяпана, пражываючы — Дубяжын 10, 17-136 Грэдэле павінен заплаціць 18,70 злотых падаходнага падатку за 1997 г. Пасля з'явілася „папраўка" і мае прозвішча, а таксама квітанцыя ўплаты вышэйназванай сумы на маё прозвішча.

Значыцца — праўда! Два гады швагер плаціў падатак у Арлянскую гміну, я — у Чаромхаўскую, за адно і тое ж поле. Хто вінаваты?

У Чаромхаўскай гміне мне паяснілі, што яны з мяне не бралі ніякіх грошай, і мне трэба падаходны падатак плаціць у Орлю.

Праўду кажучы, я ў бухгалтэрыі не разбіраюся. Шкада, што так позна аб гэтым пачуў ад адказных чыноўнікаў.

**Уладзімір Сідарук**

# Не наракаю

**У летні сонечны дзень выйсці на прыроду вабіць пах свежага сена. Мяне апрача водару прывабіла яшчэ постаць працуючай на сенажаці маладой жанчыны, з якой я ўступіў у гутарку.**

— Увесь час бягом і бягом... Поўна работы ў полі і дома, пры дзецях, якіх у мяне трое, — расказвае Іаланта Алексяюк, 28-гадовая жыхарка Мякішоў, што ў гміне Бельск-Падляшскі. — Цяжка сёлета сабраць сена, бо надвор'е няўстойлівае, даждлівае. Мой муж Рыгор працуе ў СКРы і ля сена мне самой прыходзіцца завіхацца. Дапамагаюць яшчэ мама, але ў яе хворая рука, пасля аперацыі, і адзін наняты рабочы, Славік.

Па прафесіі я — прадаўшчыца і працавала ў Бельску. Цяпер знаходжуся ў выхаваўчым водпуску. Мякішы — гэта невялікая вёска. Жыве тут усяго 100 жыхароў, гаспадаркай займаюцца яшчэ трыццаць земляробаў, з ліку якіх восем — гэта маладыя людзі. Многа ў вёсцы пустуючых будынкаў. Старыя паміраюць, маладыя ўцякаюць у гарады, перш за ўсё ў Бельск.

Мы таксама выедзем адсюль, але ў Орлю, дзе ўжо тры гады будуем дом. Там у нас 4 гектары зямлі і бывае, што еду 12 км на ровары ў поле. Працую ад шаснаццатага года жыцця. У Мякішах маем 13 гектараў. На работу ў полі не наракаю і хаця важу ўсяго 49 кілаграмаў, то з палявымі працамі спраўляюся надзрэнна. Праўда?

Ад Тройцы ў Мякішах пачаўся грыбны сезон. Людзі збіраюць жоўтыя лісічкі. Цесць за тры дні сабраў шэсць кілаграмаў. У Бельску за кілаграм плацяць па 11 зл.

Замуж я выйшла ў 21-гадовым узросце. Цяпер то я так молада не выйшла б. На гульні і забавы не было калі хадзіць.

Я вас дзесьці бачыла, — смяецца маладая сялянка. — Калісьці вы ў калектыве на танцах ігралі... Прыязджайце да нас на грыбы!

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*



# Жывёла з... архіва

У памяшканні Прыродазнаўчага музея ў Белавежы адкрылася фатаграфічная выстаўка, на якой паказваюцца 14 вялікіх памерамі чорна-белых здымкаў, выкананых у пушчы ў трыццатыя гады тагачасным дырэктарам Нацыянальнага парку праф. Янам Ежы Карпінскім. Галоўнай тэмай здымкаў з'яўляецца лясная жывёла: зубры, тарпаны, мядзведзі і ласі. Выстаўку дапаўняюць адбіткі напісаных прафесарам артыкулаў, прысвечаных паасобным відам дэманстраваных жывёл.

На некаторых здымках, побач звярыны, відаць таксама тагачасных працаўнікоў парку і наведваючых яго гасцей. Я апазнаў пакойных ужо даглядальніка гадоўлі ласей Канстанціна Казака і дырэктара Варшаўскага заапарка праф. Яна Жабінскага.

Гэту цікавую выстаўку падрыхтаваў навуковы працаўнік БНП Анджэй Кэчынскі. Будучы ў Белавежы загляньце ў музей. Варта! Выстаўка бясплатная.

**Пётр Байко**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Палетак, бутэлька гарэлкі і каўбаса

Недзе ў лютым яшчэ апошняй зімы з'явіўся ў нашу рэдакцыю чалавек, які выказаў ахвоту расказаць пра беларусаў, з якімі давялося яму дзяліць нявольо ў ваенныя гады. Пакінуў ён тады свой беластоцкі адрас і вось нядаўна наведаў я яго. Называецца ён Павел Бжузь, а расказаў мне наступнае:

— Мабілізавалі мяне 24 жніўня 1939 года ў Беласток, а адсюль вывелі пад Снядова каля Ломжы. Быў я зенітным кулямётчыкам, і калі пачалася вайна, удалося мне збіць адзін нямецкі самалёт, а каб не мой камандзір батарэі, збіў бы я яшчэ больш і стаў бы героем тае вайны! А было гэта так: пасля таго першага самалёта вызначылі нам новыя пазіцыі і загадалі акапацца. Трэба было капаць кругавыя акопы для зенітнай зброі. А ў нас толькі *сапэркі*, а зямля сухая; не ўкапаеш. Я тады пабег у бліжэйшую хату каб кірку і лапату ўзяць. А там кабета кажа, што муж яе на вайне і чужому яна нічога не дасць. То я ёй дзесяць злотаў; і дала. І я тымі прыладамі першым выкапаў свой акоп і кулямёт паставіў ды нацэліў на поўдзень. Прыходзіць камандзір батарэі, сам улазіць у мой акоп і перавoдзіць кулямёт на поўнач. А ў той час дзве велізарныя, як стадолы, нямецкія машыны вярталіся ад поўдня, нізенька, над нашымі галовамі... І паляцелі спакойна; каб не той камандзір, я ж распароў бы іх агнявой чаргой! А яны разведалі нас і праз нейкія пятнаццаць хвілін наляцелі на нашы пазіцыі штурмавыя „Месэршміты" і ўсё разбілі. Адступілі мы, хто ацалеў, пад Высока-Мазавецк, а туды ўжо і танкі, і артылерыя нямецкія паявіліся. Такі быў абстрэл, што і варухнуцца не было як. Папаў я ў палон, зганялі спярша ў Ортэльсбург (Шчытна), калона там нас такая ўжо ішла, што ні пачатку, ні канца не было відаць. Пазней перавялі нас у Сталаг 1А каля Кёнігсберга. Там раздзялілі палонных паводле нацыянальнасці; найперш яўрэяў: — Juden 'raus![1] Нас, палякаў, узялі ў канцы кастрычніка ў маёнтак нейкага графа, 24 кіламетры ад горада, капаць караняплоды. А ў снежні мяне, як шаўца, перавялі зноў у Кёнігсберг, дзе ў майстэрні правёў я каля года і крыху пазнаў нямецкую мову. Пасля нас, пятнаццаць чалавек, зноў раздзялілі: васьмярых, якія былі з зямель, што засталіся Рэйху, аддалі ў прыватныя майстэрні, а семярых з зямель, што папалі пад саветаў, забралі ў Пілаў (Балтыйск). Далучылі нас там да сотні чалавек; большасць іх складалі беларусы і ўкраінцы. Умовы там былі жахліва нялюдскія: жылі мы на гарышчы аднапавярховага дома, сам дом займалі вахманы, а ў падвалах была катавальня. Сярод вахманаў былі фольксдойчы, адзін з іх меў залатыя персцені на ўсіх пальцах, а адну руку меў нанізаную гадзіннікамі. Логавы нашы былі збіты з аполкаў, высланы паперай і высыпаны драўнянымі стружкамі; для накрывання мелі мы па два лядачыя пледы. Працавалі мы ў порце пры загрузцы і выгрузцы, прыбіралі ўсялякія нечыстоты. Выконвалі найгоршую працу і даставалі найгоршае харчаванне; ежу давалі нам не ў менажках, а ў плявальніцах.

Аднойчы, пасля абеду, я яшчэ мыў каля студні сваю тую пасудзіну і бачу, што ідуць чатыры высокія афіцэры і тры цывільныя. І пытаюць яны пра перакладчыка, або хаця каго, wer kann sprechen Deutsch[2]. Я спярша нічога, але за другім разам прызнаюся, — бо ці можа быць горш чым тут — што крыху ўмею. І гавару ім, што тут sehr schlecht, viele kranken, Tuberkulose[3]... А за плячыма чую шэпт вахмана: — Verfluchte polnische Kadett![4]. Ідуць яны на гарышча, вахманы хочуць іх назад завярнуць: — Jetz kommen wir 'runter[5], а я адкрываю ім дзверы да нашых логаваў. А адтуль задуха, смурод. — Ach, lieber Gott![6] — усклікнулі госці і тут жа загадалі: — Alle Männer kommen 'runter mit seine Gepäcke![7] Павялі нас у лазню, зрабілі „каранцін", далі новую бялізну і вопратку; дагэтуль мы ж мелі на сабе толькі тое, у чым з вайны папалі, нямытае. Завялі нас у баракі, там ложкі, матрацы, просціны, па два пледы — як для войска! Але мне нядоўга там давялося быць — толькі тры дні; вахманы не забылі майго „нахабства". Адаслалі мяне назад у Сталаг 1А, быў я там ад 1 студзеня да паловы сакавіка 1941 года; цудам пражыў той перыяд. У сакавіку аддалі мяне аднаму баўэру; быў у яго яшчэ адзін паляк, трох беларусаў і пятнаццаць юнгаў з Гітлер-югенда. Тыя хлопцы выратавалі нас аднойчы ад смерці...

Быў кастрычнік, баўэру трэба было здаць для арміі бульбу. Бульбу мылі, а пасля насыпалі ў мяшкі па 75 кілаграмаў; я важыў. Прыбег баўэр, сыпнуў бруднай бульбы ў мяшок і да мяне, хацеў ударыць. То я да яго з віламі, бо за брудную бульбу, калі б што, дык не мяне, толькі мне нaганяй быў бы! І Пётр Станкевіч, беларус, таксама віламі аб падлогу ўдарыў і крычыць мне: — Валі, прападзі яго маць! Юнгі адвярнуліся, глянулі, а баўэр уцёк і больш таго дня не паявіўся. На другі дзень растрасаем гной; каля поудня ідзе да нас нейкі вайсковы. Спярша да мяне прычапіўся, што я бунтую, а пасля да юнгаў. І яны давай расказваць як было, што баўэр здзекуецца над усімі; у бядзе ўзнікла між намі спантанная салідарнасць. Пасля гэтага нас, палякаў, забралі адтуль, і з таварышамі тае свае нядолі больш мне не давялося пабачыцца.

Спытаў я спадара Бжузя пра адносіны тых беларусаў да Польшчы і да Расеі.

— Да палякаў адносіліся яны добра, аднак варожа ставіліся да польскай дзяржавы і на Расею ўскладвалі ўсе свае надзеі.

Пацікавіўся я таксама, як там, у нямецкім палоне, бачылася нямецка-савецкая вайна.

— Маёнтак нашага баўэра знаходзіўся нейкіх 70 кіламетраў ад тадышняй мяжы, і ўжо ад студзеня 1941 года можна было заўважыць рух нямецкіх войскаў у напрамку граніцы. Падыходзілі яны скрытна, ротамі, аднак чым бліжэй было да нападзення, тым менш удавалася ім гэта скрываць. Раз у садзе чысцілі яны ружжо і ўдалося мне падслухаць наракані салдатаў, што замала хлеба даюць ім. І на другі дзень бачым, што трох іх у хляўчуку замкнёнымі сядзяць, значыць, за тыя нараканні і пасадзілі іх! То мы ім хлеба пастараліся, і да хлеба — трэба ж памагчы ў нядолі. А ўжо перад самай вайною строгую гатоўнасць увялі, зенітную зброю паставілі. А ноччу, нядзеля гэта была, чуем — зямля дрыжыць, пачалося! І надзея ўступіла ў нас, што вызваляць урэшце... Але не падаем знаку, прыкідваемся дурніцамі і наслухоўваем: калі больш выбухаў будзе, тады руская возьмуць верх, а калі менш, тады немцы. Але адкацілася вайна на ўсход.

Першага дня з'елі мы снеданне і сядзім у кухні. Прыйшла баўэрава жонка, хоча нешта сказаць, хвалюецца. Затрымалася, павяла рукою навокал па небе і ўскліκнула: — Jetz ganze Welt wird deutsch![8]. Пасля і баўэр прыйшоў і цешыцца: — Zwei Wochen Russland kaputt![9] А мой сябра паціхеньку на гэта: — Прападзі твая маць і цэлае тваё сабрэнне! А юнгам баўэр тлумачыў, што пасля вайны ў іх будуць не такія, як у яго маёнткі і яны мусяць навучыцца паслугоўвацца палоннымі: палетак, бутэлька гарэлкі і каўбаса, а сам будзеш на кані ехаць і глядзець — хто першы, таму і тая бутэлька з каўбасою. Адзін з юнгаў пазней кажа нам, што яго бацьку ў першай вайне таксама ўсяго на французскім фронце наабяцалі, і раптам аказалася, што прайгралі немцы вайну.

**Аляксандр Вярбіцкі**

[1]Яўрэі — выходзіць!
[2]хто ўмее гаварыць па-нямецку.
[3]вельмі дрэнна, многа хварэе, сухоты.
[4]Пракляты польскі кадэт!
[5]Цяпер сходзім уніз.
[6]Ах, дарагі Божа!
[7]Усе мужчыны сходзяць уніз са сваімі пакункамі!
[8]Цяпер увесь свет будзе нямецкі!
[9]Два тыдні і Расеі канец!

# Ці ў Белавежы ўзнікне этнаграфічны музей?

Свайго часу ў Белавежы існаваў Беларускі этнаграфічны музей, але яго ліквідавалі. Дробная частка экспанатаў трапіла ў Прыродазнаўчы музей, дзе яны дэманструюцца па сённяшні дзень. Раздражнены ліквідацыяй беларускага музея Міхась Байко вырашыў наладзіць у сваёй хаце этнаграфічную экспазіцыю. Гэта яму ўдалося, але з момантам ягонага прыезду на пастаянае жыхарства ў Гайнаўку „этнаграфічная хатка" пачала паступова затрачваць свой характар. У пачатку 90-х гадоў этнаграфічныя зборы задумаў накапліваць д-р медычных навук Сяргей Тарасевіч. Потым (у гадах 1994—96) паказваў іх у Лясной галерэі, якую заснаваў супольна са сваёй жонкай Тамарай. На жаль, у пачатку бягучага года яны выехалі ў ЗША, а галерэю ліквідавалі. Што зрабілі з экспанатамі — невядома.

Ва ўзніклай сітуацыі „этнаграфічнае аблічча Белавежы" вырашыў ратаваць Белавежскі асяродак культуры. Ён хоча заснаваць этнаграфічна-гістарычны музей. Распрацаваны ўжо канцэпцыя і ўступны праект для гэтай установы.

Музей у асноўным змяшчаўся б у частцы памяшканняў асяродка культуры, там дзе спярша працавала прадуктовая крама, потым кафэ-бар. У іх дэманстраваліся б прылады штодзённага карыстання. Тут таксама адзначалася б гісторыя Белавежы.

Побач будынка знайшлося б месца на этаграфічны агародчык. У ім паказваліся б, напрыклад, вуллі выкананыя ў калодах дрэў, сельскагаспадарчыя прылады і т.п. Тут можна было б гадаваць хатнія расліны.

Музей не толькі б захоўваў і дэманстраваў экспанаты, але таксама іх каталагізаваў бы і апісваў. У яго памяшканні вяліся б лекцыі для школьнікаў.

Ці музей узнікне? Гэта будзе залежыць перш за ўсё ад саміх белавежцаў, ад іх ахвоты перадаць музею экспанаты. БАК абяцае, што ўсе ахвяраванні ці дэпазіты знойдуць сваё належнае месца і забеспячэнне.

**Пётр Байко**

# Культура прыбліжае народы

Ужо сёмы раз, гэтым разам у Холме ў днях 22—24 мая, дзеячы Таварыства супрацоўніцтва народаў Усходняй Еўропы „Прыбліжэнне" і члены Краёвай рады рэгіянальных таварыстваў культуры сустрэліся на ўсходнееўрапейскім семінары, які праходзіў пад лозунгам „Культура прыбліжае народы і рэгіёны".

З уводным словам выступіў старшыня Краёвай рады Анатоль Амельянюк, а асноўны даклад зачытаў праф. Ежы Дамрош — старшыня Таварыства „Прыбліжэнне". Дакладчык звярнуў увагу на ўзаемасувязь еўрапейскай спадчыны з каранямі нацыянальных і лакальна-рэгіянальных культур і, спасылаючыся на ранейшую сваю канцэпцыю інтэграцыі Сярэднеўсходняй Еўропы вакол „восі Варшава—Кіеў", заклікаў польскі палітычны клас і палітолагаў шукаць інтэгруючую Еўропу звышформулу, звязаную з прынцыпамі этыкі і культурнымі каштоўнасцямі. Сцвердзіў ён таксама, што Еўрапейскі Саюз — апрача становучага аспекту — мае адмоўныя бакі, і выказаўся за больш свабодны пераплыў культурных вартасцей у Еўропе. На думку Е. Дамроша, народы Сярэднеўсходняй Еўропы прыгавораны гісторыяй на блізкае сужыццё і садзеянне ў шырокай посткамуністычнай зоне на нашым кантыненце і гэты непаўторны гістарычны шанц трэба абавязкова выкарыстаць.

Д-р Юры Туронак пазнаёміў удзельнікаў семінара з гаспадарчымі сувязямі Польшчы з Літвой, Беларуссю і Украінай пасля распаду Савецкага Саюза. Спасылаючыся на статыстычныя даныя дакладчык сцвердзіў, што шматгадовыя тэндэнцыі ў гэтай галіне, апрача базарнага „экспарту" з Беларусі і Украіны, не настройваюць аптымістычна, паколькі яны некарысныя для абодвух бакоў.

* * *

Беларуская тэматыка — пастаянны элемент прац Таварыства „Прыбліжэнне". У другім дакладзе Юры Туронак стараўся адказаць на пытанне, якое аднначасна было і загалоўкам рэферата: „Ці беларускі народ захавае сваю этнічную і культурную теснасць?" Так фармулюючы пытанне арганізатары спадзяваліся выклікаць жывую дыскусія, аднак атрымалася толькі некалькі кароткіх выказванняў-пытанняў з падтэкстам. Не заахвоцілі да дыскусіі таксама сфармуляваныя дакладчыкам тэзісы аб працягванні этнакультурнай дыферэнцыяцыі пры слабым імкненні беларусаў да грамадскай інтэграцыі і разнастайных у асноўных пытаннях пазіцыях пасобных цэркваў у Беларусі (праваслаўнай, каталіцкай, уніяцкай і пратэстанцкіх абшчын). Можна згадзіцца з меркаваннямі дакладчыка, што магчымымі будуць дваістыя дзеянні: ва ўсходнім і заходнім напрамках. Вынікаюць яны галоўным чынам з геапалітычнага палажэння Беларусі ды з гістарычнага і цяперашняга вопыту яе жыхароў.

З пяцігадовага перыяду фармальнай незалежнасці Беларусі (1992—1996) бачны становучыя прадпасылкі захавання грамадствам этнічна-культурнай тоеснасці, у прынцыпе абапіраючыся на Расію (дэмакратызаваную?) або на Захад (калі б той больш рашуча выказваў зацікаўленне трывалай і прынцыповай дэкампазіцыяй гэтага свайго вялікага саюзніка). Аднак гэтыя прадпасылкі не даюць асноў фармуляваць адназначныя меркаванні наконт захавання або страты этнічнай і культурнай тоеснасці беларускім народам. Не зрабіў гэтага ні дакладчык, ні яго слухачы.

**Міхал Жанчэўскі**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 450

Рэдактар: Сакрат Яновіч

# Дзікія шаманы і аднакрылыя птахі

Тэрэса Занеўская

Калі ў 1990 годзе выйшла ў свет першая кніжка Бібліятэчкі Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", пэўна ніхто не дапускаў думкі, што гэтая выдавецкая серыя трывала ўпішацца ў каларыт беларускага літаратурнага жыцця ў Польшчы. Тым часам з'явілася ў гэтай серыі ўжо **семнаццаць** кніжак, з якіх некаторыя звяртаюць на сябе ўвагу таксама наватарствам, як, прыкладам кажучы, „Дзверы" Надзеі Артымовіч з каментарыямі Алеся Разанава.

І вось надрукавана нядаўна кніжку „Далёкія і блізкія"* Яна Чыквіна. Гэта яго слова пра творчасць і творчы лёс шэрагу эміграцкіх пісьменнікаў, як і пра некаторых з „Белавежы". У беларускай літаратуры няшмат сказана пра аўтараў на чужыне, а тое, што гаварылася ды пісалася пра іх за савецкім часам, наогул не заслугоўвае чытацкай увагі. Можна знайсці крыху тэкстаў глыбейшых, але яны распылены па перыядычных выданнях. Прычым даволі аматарскія ў сэнсе метадалогіі ды спосабаў даследавання літаратурнага твора. Без арыентацыі ў навейшых дасягненнях крытыкі.

Дзякуючы спомненай кніжцы Чыквіна, беларускі чытач атрымаў магчымасць усведамлення сабе еўрапейскай маштабнасці роднай літаратуры. Яе канцэпцыя грунтуецца — вобразна кажучы — на кругах з эпіцэнтрам. Аналізуе Чыквін „дзікіх шаманаў" і „аднакрылых птахаў". Пачынае з эміграцкіх творцаў, Масея Сяднёва, Наталлі Арсеньневай, Янкі Юхнаўца, Кастуся Акулы, Ларысы Геніюш. Затым бярэцца за спадарожных яму самому „белавежцаў", даследуючы творчыя здабыткі Юркі Геніюша, Яшы Бурша, Уладзіміра Гайдука, Міхася Шаховіча, Надзеі Артымовіч, Сакрата Яновіча. І як завяршальны акцэнт „Далёкіх і блізкіх", анекс у выглядзе нарыса знакамітага Уладзіміра Конана пра лірыку менавіта Яна Чыквіна.

Героі кніжкі падабраны відаць не выпадкова. На думку яе аўтара, выбраў ён тых, чыя творчасць дасягнула еўрапейскага кантэксту. Вердыкт, з якім не дыскутуюць. Хоць чытачу можа бракаваць у тым пераліку яшчэ Алеся Барскага і Віктара Шведа, а з эміграцкіх, скажам, Алеся Салаўя.

Чыквін вызнае ўласную іерархію каштоўнасцяў разам з уласнымі ацэнкамі з'яў у беларускім літаратурным жыцці, указваючы адначасна на галоўныя вехі ў ім у выглядзе творчасці Алеся Разанава, Надзеі Артымовіч, Янкі Юхнаўца.

Напісана кніжка несхематычна, без стэрэатыпных поглядаў на гістарычна-літаратурныя працэсы. У кожным змешчаным у ёй нарысе адчуваецца ўдалую спробу арыгінальнага падыходу да тэмы. У творчасці кожнага з апісаных Чыквіным пісьменнікаў знаходзіць чытач тое найбольш сутнае, істотнае. Дзякуючы ўласціва падабранаму інтэрпрэтацыйнаму ключу. Даследуючы, Чыквін разам з тым карыстаецца правам уласных заўвагаў ды прапановаў, не абмяжоўваецца толькі вопісам. І пазбягае паўтораў напісанага кімсьці пра прэзентаваных аўтараў.

Здаецца асабліва цікавым нарыс пра творчыя здабыткі Сакрата Яновіча „Сямейны партрэт крынкаўцаў з аўтарам на першым плане (Штрыхі да творчай біяграфіі Сакрата Яновіча)". Нейк міжвольна пераконвае тут канстатацыя, што ключом дзеля інтэрпрэтацыі творчасці аўтара „Самасея" з'яўляецца сама біяграфія пісьменніка, асабліва дзяцінства і маладосць, што супярэчыць Яновічавым прызнанням наконт сваіх творчых інспіраці́й. Такое меркаванне Чыквіна несумненна будзе інтрыгаваць даследчыкаў творчасці Сакрата Яновіча.

Чытаючы „Далёкіх і блізкіх" варта звярнуць увагу на вельмі багаты ў гэтай кніжцы кантэкст еўрапейскай літаратуры, таксама амерыканскай. Упісваюцца ў яго прадстаўленыя Чыквіным паэты і пісьменнікі. Гэтак жа і ў філасофскі кантэкст (Шапенгаўэр, Ніцшэ, Хайдэгер, Сартр, Ясперс, Марытэн). Без чаго немагчыма зразумець і праінтэрпрэтаваць літаратурныя з'явы нашага веку.

Творчыя постаці прадстаўленых пісьменнікаў уяўляюць сабою інтэгральную частку і палітычнай рэчаіснасці, не кажучы ўжо пра іх значэнне ў гістарычна-літаратурных працэсах на ніве беларускай літаратуры ў дваццатым стагоддзі наогул, што Ян Чыквін намагаецца грунтоўна растлумачыць. Нярэдка спасылаецца прытым на малавядомыя факты з жыцця некаторых эміграцкіх творцаў і з літаратурнага жыцця беларускай эміграцыі. Гэта добры знак зарыентаванасці ў матэрыяле.

Часам непасрэдна цытуе аўтарскія сведчанні, як, напрыклад, ліст Кастуся Акулы з Канады дасланы Чыквіну. У гэтай прасторнай карэспандэнцыі праліваe Акула новае святло на шмат-якія падзеі ў беларускім эміграцкім лёсе, у лёсе некаторых пісьменнікаў на чужыне. Іначай тады глядзім на драму Янкі Юхнаўца, „дзікага шамана", незразуметага сваімі і чужымі, які зачакаўся на сваю шчасную зорку і добры час дзеля сваёй, вельмі арыгінальнай, паэзіі (нагадваючай у нечым творчасць Баляслава Лесьмяна).

Пазнавальнасць кніжкі Яна Чыквіна надзвычайная! Найперш у тым, што знаёміць нашага чытача і з тымі выдатнымі пісьменнікамі, пра якіх у нас мала хто чуў па прычыне „жалезнай заслоны" ў Халодную вайну. А сваёй аналітычнасцю, растлумачэннем механізмаў творчасці, важкай інтэрпрэтацыяй надта падыходзяць „Далёкія і блізкія" таксама ў якасці навучальнага дапаможніка настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. Героі гэтай кніжкі могуць паслужыць добрым выхаваўчым узорам маладым беларусам (чаго вартая хаця б постаць Ларысы Геніюш).

Ян Чыквін адкрывае нам забытую частку беларускай літаратуры, істотным чынам узбагачаючы нашу культурную свядомасць. Немалой літаратуры, цалкам еўрапейскай, з нечуванай раней дынамікай яе развіцця ў будучыню. Пазнаючы яе, мы ўсё мацней любім яе, паважаем і ганарымся ёю. Думаецца: варта было б перавыдаць гэту кніжку ў польскім перакладзе, каб пашырыць такім чынам польскае ўяўленне пра беларускую літаратуру, якое, на жаль, даволі фрагментарнае, каб не сказаць: запозненае... На мяжы анахранічнасці.

Гэтая ініцыятыва тым больш цікавая была б палякам, бо шмат хто з беларускіх пісьменнікаў прызнаецца да польскіх інспірацыяў у сваёй творчасці.

У заканчэнне трэба падкрэсліць яшчэ адну вартасць працы Чыквіна. У „Далёкіх і блізкіх" піша ён, сам паэт, пра паэтаў, які разумее няпростую душу паэта куды глыбей, чымсьці звычайны чытач паэзіі. Ацэньвае ён паэтаў вачыма паэта, але і аналітыка, прафесара літаратуры. Маючы за сабою ўласныя багатыя здабыткі творчага і навуковага планаў.

Далёкія стаюцца блізкімі.

*Ян Чыквін, *Далёкія і блізкія"*, Беласток 1997.

Сакрат Яновіч

# Наезд на хамутоў

Сьвяты Франак, што баяўся дзяўчат і ўсё пекненька казаў „дзянкуе" і „дзянкуе", чамусьці дастаў па зубах ад высранскіх кавалераў на музыках у лясуноў; у нашым Жыдоўскім завулку закіпела. Падшпаркі слепацелі на напухлую, бы сліва, губу Святога. Ён мацюгаўся, але, згледзеўшы спеючых дзяўчынак у плойме смургеляў, хаваўся ў хату.

Заходзілі да Святога Франка сябры і стала відома, што хамутам дастанецца за яго. У слёсара Роварчыка тым часам даводзілі яны да ладу свае матацыклы. Валтузіліся з вайсковым маторам, што са зручнаю лодкаю кулямётніку... Моцнае ламарэндзе гэтае магло перці на сабе трох хлапчугоў з камянямі за пазухаю. Нехта з іх прывалок заезджанага савецкага „Іжа" з прычэпкаю пад брызентам, так што тэхнікі не бракавала.

Камандзерыў Чорны Грышка з Браварнай. Ваўчыца, смольнай пароды яго сястра, нарыхтавала бойкіх яблыкаў, нашпігаваных якойсьці ўедлівай поскудздзю. А кожны сам сабе прыдбаў шворань, абгорнуты дзеля няпознатку газетаю.

Засталося чакаць танцаў на Спаса ў тым Казловым Лузе.

Як толькі надышло тое свята, Чорны закамандаваў збірацца ўсім пад вечар за спаленай у вайну гарбарняй Сруля. У гэтым — някідкім у вочы — месцы каторы раз прымеркавалі, што і як будзе; затым пагазавалі да казлоўцаў. Кіраваліся не на голую шашу; няспешна пэрхалі ўтравелымі дарожкамі ў палях, раз'ядначўшыся адны ад адных, усё роўна што чужыя (канцэнтрацыя напрыканцы).

Чорны Грышка, набыўшыся польскім капралам, ведаў тактыку ды спосабы. Узяў з сабою Святога Франка, каб апазнаваў мардабойнікаў.

Уязджаць завідна ў Казлоў Луг не планавалася. Заляглі ў зарасніках, на канцавым загуменні. Музыкі пачаліся былі — чулася — але слаба бубнілі, начэкваючы кавалеркі, якая яшчэ сцябала па хатах сівуху (паненкі канчалі модзіцца). У падворышчах людзі віскліва карміліі сві́ней, бабы курэй клікалі. Ад лесу пастух гнаў кароў з пашы, што здаля магло падацца пяхотнаю ротаю з вазамі рыштунку ды правіянту...

Узышоў месяц і кусалі камары, калі Чорны Грышка махнуў у траву недакурак, гучна сказаўшы:

— Цяпер, хлопцы!

З трэскатам павыводзілі з гушчавіны маторы і з рыкам ірванулі туды, да пагулянскай ламатні з п'янымі спевамі. Гамавалі каля парога святліцы так, што мала не пападалі, а густы пыл наляцеў за імі, укрыўшы ўсю гэту каманду. Чорны Грышка саскочыў з вуркочучай машыны першым і нема заенчыў на парозе:

— Ręce do góry! — і пагрозліва размахнуўся над галавою доўгім шворнем, з якога адпадала паперына, нагадваючы белы штандар капітуляцыі.

Вашаі зарагаталі, убачыўшы месцачковых шванцаў. Калі, аднак, поруч з Чорным з'явіўся Святы, нехта пагасіў ліхтар пад столлю і зрабілася ціха, бы ў прыход начной навальніцы.

— Ręce do góry, сказаў вам! — паўтарыў без сэнсу ў цемнаце Чорны Грышка, дапусціўшы тым самым памылку небандыта.

Аднекуль адказаў яму сіплы голас выпівайлы і курца:

— Пацалуй у сраку!

Узняўся вэрхал і Чорны аддаў загад сябрам:

— Яблыкі! — і зашпурлялі яны імі неўпапад. Ад гэтага тхнула адтуль нейкім аптэчным смуродам і зараз першабытнымі крыкамі дзяўчат. — Назад! — была наступная каманда і сябры гурнулі да абачліва непагашаных матацыклаў. Святы Франак спатыкнуўся, але Чорны Грышка падхапіў яго за каўнер; ніхто не застаўся пад мужыкамі ботамі.

Дагналі і перагналі наезнікаў казлоўскія сабакі. Падралі нагавіцы Святому, які сядзеў ззаду за Чорным; уцякалі яны апошнімі, па-камандзерску прапусціўшы сяброў дапераду. Франак страшэнна перапужаўся і ад таго схапіў ушчаперанае яму за нагу малое сабарно за карак ды падняў над зямлёю — адурэлы такім лётам дварняк завыў дзіка і ад гэтага цэлае ган'ё некуды прапала.

Ды адна бяда не бывае. У святло пражэктара пярэдняга матацыкла ўбег малады, то і дурны, заяц, як аказалася пасля. Чорны Грышка ледзьве запыніўся перад карамболем. Святы Франак, які верыў у злыя духі, не адразу сцяміў, што не вогненныя гэта чэрці бліскацяць перад ім ды бахаюць жалезам, скачучы ценямі ўсё нібы з нябёсаў ды ўніз на дарогу рагатымі ілбамі...

Тым часам Бог адняў розум якраз казлоўцам і яны выбеглі за вёску, каб пакваліцца нагодаю накаплешыць удосталь. Гопалі, бы збунтаваныя ў паншчыну халопы, паддаючы жару самі сабе ебукамі (на шчасце не дадумаліся ўзяць вілы ды сякеры). Чорны Грышка — а ў такі пограз ён сухі, аж іскры з яго сыплюцца — гукнуў, як пых полымя:

— Гасіць фанары! Маўчаць!!

У невідушчую цемнач балаган пагоні аціх і можна было ўявіць сабе, як тыя пасталі ў купе, чуйна ўслухаўшыся. Сябры гэтак жа не варушыліся, ад стрымнага страху разумеючы, што вось у дажджавое хмар'е ратунак, бо паніка закончылася б капліцаю ім. Абедзве зграі цішыліся з паўгадзіны, хоць недысцыплінаваныя мужыкі выяўлялі час-часом сваю прысутнасць баязлівай лаянкай: „Ану, шванцы абструганыя!"

Чорны загадна шаптаў:

— Хлопцы, ні з месца! Хамуты ўсраліся!!

І сапраўды, тыя неўзабаве загарлапанілі, як і павінны забабонныя варвары, упалоханыя чарамі свету. Іх гамана аддалялася. Сябры асцярожна, без дзвэнгання, пападымалі ўсяляк паваленыя маторы і, не маючы пэўнасці ў іх непапсаванасці, павялі ў руках. Дзіўнае гэта было вяртанне, доўгае і ўтомнае. Рыхтык зладзеі, што набраліся здабычы ў падлесных засценках багатых хутарцаў...

Месцачковая галота заядла ганарылася сябрамі з Жыдоўскага завулка, у паслейшых аповядах якіх пра тое здарэнне нават гранаты рваліся ды біла артылерыя, пакінутая адступаючымі немцамі каля — узарванага партызанамі — мастка на Балатнянцы.



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

**Зорка**
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Купалінка ў Супраслі



*Дзеткі, бацькі і айцец Якаў на ўзгорку, дзе стаяла першая царква ў Супраслі.*

Супрасль. Прыродазнаўчы музей.

— Ці ведаеце, дзеткі, які найбольшы звер жыве ў Кнышынскай пушчы? — пытаецца дашкольнікаў экскурсавод.

— Слон, — хорам заяўляюць малюты. У зале ўсе трасуцца ад смеху.

Пабыўка ў музеі вельмі ўдала спалучылася з праграмай экскурсіі. Бо як тут уявіць Купалле без прыроды? А ў музеі можна пабачыць многіх звяроў, птушак, шмат раслін ды і даведацца, што найбольшым зверам не з'яўляецца слон толькі зубр.

Купалле над рэчкай Супрасль праходзіла ў вясёлай, бяседнай і сонечнай атмасферы. Дзеткі і настаўніцы з беларускага прадшколля паставілі сцэнку „Купалле". За сцэну паслужыў ім квяцісты луг. Ззаду блішчала рака Супрасль. Дзяўчынкі ў каляровых вяночках і ўборах нагадвалі сапраўдныя кветачкі. Іншыя былі пераапранутыя за нячысцікаў. Майка Більмін, ужо выпускніца прадшколля, іграла ролю „Купалінкі". Каляровае сцэнічнае афармленне ўласнаручна выканалі настаўніцы — Альжбета Бурачэўская, Галіна Іванюк, Альжбета Рудчук, Эва Гняздоўская. А самую п'есу, а таксама ролю вядучай падрыхтавала Альжбета Бурачэўская. Папаўненнем купальскіх гульняў была сустрэча з дзядзькам Яўгенам Вапам, які ў вясёлы спосаб расказаў малым і старым пра купальскі абрад. На канец артыстычнай часткі дзеткі, як гэта прадбачвае традыцыя, кінулі вянок на раку. Пры гэтым вельмі прыгожа спявалі „Купалінку". На працягу дня многа здарылася. Апрача гульняў былі і больш сур'ёзныя моманты. У Супраслі наступіла ўрачыстае развітанне з шасцігодкамі. Усе яны атрымалі беларускія пасведчанні — „Дашкольную грамату". Трэба спадзявацца, што выпускнікі і далей будуць сустракацца з малодшымі сябрамі. Зараз такую сувязь падрыхтоўваюць мінулагоднія выпускнікі. Некаторыя з іх гулялі таксама на Купаллі.

Цяжка быць у Супраслі і не наведаць Супрасльскі манастыр. Удзельнікі Купалля не толькі паслухалі расказ айца Якава пра гісторыю царквы і манастыра, але і мелі нагоду памаліцца перад іконай Супрасльскай Божай Маці.

Цікавай атрымалася сустрэча з паэзіяй Віктара Шведа. Паэт чытаў свае вершы не толькі малечам, але і іх бацькам. Разам з паэтам прыехала яго дачушка Наталька, вучаніца першага беларускага класа ў Беластоку.

Купалле цяжка ўявіць без песень. Таму ўсе весяліліся спевамі, бяседай і супольнай гульнёй. У гэтым годзе з дашкольнікамі і іх бацькамі святкавалі студэнты-басаўцы. Такога спалучэння яшчэ не было! А дзеялася ўсё гэта 21 чэрвеня на гасціннай дачы спадарства Латышонкаў у Супраслі.

**Ганна КАНДРАЦЮК**
*Фота аўтара*

PS. Бацькі, настаўнікі і дзеці вельмі сардэчна дзякуюць спадарству Веры, Тамары і Алегу Латышонкам за магчымасць правядзення Купалля на іх дачы ў Супраслі.



*Дзядзька Яўген Вапа смешна расказваў пра Купалле.*

Максім БАГДАНОВІЧ

## Вечар

Месяц круглы ўстаў на небе,
Блішчыць невысока,
Ўвесь чырвона-жоўты, быццам
Пугачова вока.

З мілым, задушэўным зыкам
Важкі хрушч лятае;
Пра няшчаснае каханне
Нехта запявае.

Голас полем пракаціўся,
У бары аддаўся:
„А дзе ж тая крынічанька,
Што голуб купаўся?"

І снуюцца сумна ў сэрцы,
Ўюцца адгалоскі
Роднай песні, простай песні
Беларускай вёскі...

## Браніслаў Эпімах-Шыпіла

Браніслаў Эпімах-Шыпіла нарадзіўся ў 1859 годзе ў шляхецкай сям'і, у фальварку, што недалёка Полацка. У гісторыю Беларусі запісаўся ён тым, што выхаваў самых выдатных дзеячаў беларускага нацыянальнага адраджэння, такіх як Янка Купала, Браніслаў Тарашкевіч, Язэп Варонка, Зміцер Жылуновіч, Адам Станкевіч, Вінцук Гадлеўскі, Францішак Грынкевіч і дзесяткі іншых змагароў за вольную Бацькаўшчыну. Эпімах-Шыпіла быў выпусніком Пецярбурскага універсітэта, чалавекам вельмі адукаваным. Пра яго інтэлект сведчыць тое, што валодаў 20 мовамі. Працуючы дырэктарам бібліятэкі Пецярбургскага універсітэта найлепш ведаў вартасць кніжак у жыцці кожнага грамадства. На выданне кніг на беларускай мове ахвяраваў ён амаль усю сваю маёмасць. У 1906 годзе разам з іншымі беларускімі інтэлектуаламі, што пражывалі тады ў Пецярбургу, заснаваў выдавецкую суполку „Загляне сонца і ў наша ваконца". Кватэра Эпімаха-Шыпілы была сядзібай гэтага выдавецтва, а таксама цэнтрам беларускага руху ў сталіцы Расійскай імперыі. Яго адрас быў добра вядомы кожнаму беларускаму студэнту, які вучыўся ў Пецярбургу. У 1912 годзе Эпімах-Шыпіла стварыў, у структурах універсітэта, Беларускі навукова-літаратурны гурток, які даваў яму магчымасць афіцыйна працаваць з беларускімі студэнтамі. Пад яго апекай вырастала нацыянальная эліта, якая пару гадоў пасля пачала думаць пра стварэнне свае дзяржавы.

Эпімах-Шыпіла працаваў таксама выкладчыкам у Пецярбургскай каталіцкай духоўнай акадэміі. Святары з Беларусі, якіх ён вучыў, пасля ўзначалілі рух за беларусізацыю Каталіцкага касцёла ва ўсходніх ваяводствах ІІ Рэчы Паспалітай.

У 1924 годзе Браніслаў Эпімах-Шыпіла пераехаў жыць у Мінск і стаў працаваць дырэктарам Інстытута беларускай культуры. Беларускай акадэміі навук перадаў ён сваю бібліятэку, якая налічвала звыш 5 000 тамоў. У 1929 годзе бальшавікі пачалі знішчаць беларускую культуру. Эпімаха-Шыпілу прымусілі выехаць з Беларусі. Вярнуўся ён у Пецярбург, дзе памёр у галечы ў 1934 г.

# Польска-беларуская крыжаванка № 27

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Igła / Gra | | Rzeka / Ruch | | | | | Brat / Arab | | Oka | Bar |
| | | | | Kiero-wnica | | Łata / Ar | | | | |
| Łuk / Socha | | | | Gro-mada | | | | | | |
| | | | | Kraso-mówca | | | | | | |

Адказ на крыжаванку н-р 23:

1. **Шануй лес** (крыжаванка Касі Леанюк).

2. **Фіялка** (крыжаванка Бэаты Іванюк).

Узнагароду — кніжку М. Гайдука „Белавежскія быліцы і небыліцы" — выйгралі **Пятрусь Янкоўскі** з Бельска-Падляшскага і **Аліна Анапюк** з Ласінкі. Віншуем!



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Канец школьнага года ў Ласінцы


*Настаўнікі, госці і вучні. У першым радзе сядзяць (злева): Яўген Кавальскі, Ян Селеванюк, Леанідас Казлоў, Хрысціна Сельвясюк, Люцына Рушук і Валянціна Базылюк.*

У апошні дзень школьнага года „Зорка" пабывала ў Ласінцы. Тут усе дзеткі ходзяць на ўрокі беларускай мовы. І што асаблівае, многія з іх паміж сабой гавораць на роднай мове. У Ласінцы многа чытачоў „Зоркі". Ды і многа цікавага здарылася ў гэтай школе на працягу мінулага года. Вакальны гурт „Лісічкі" заваяваў першае месца ў Аглядзе дзіцячай беларускай песні. Зараз „Лісічкі" маюць новыя ўборы. Атрымалі іх з Нараўскага дома культуры. У рэпертуары гэтай групы прыгожыя беларускія песні. Пашанцавала школе на таленты. Паўліна Пашко не толькі бліскуча спявае, але і таксама дэкламуе паэтычныя творы (другое месца ў цэнтральным дэкламатарскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы), выступае на сцэне. Дзеці з Ласінкі заваявалі таксама першае месца ў тэатральным беларускім аглядзе для школьнікаў. І што цікавае? Беларускасць тутэйшым дзеткам прывіваюць не толькі настаўнікі і мясцовыя інтэлігенты. Настаўніца беларускай мовы Валянціна Базылюк звяртае ўвагу на супрацоўніцтва са спадарыняй Аліцыяй Станько, кіраўнічкай мясцовай бібліятэкі. Пані Аліцыя піша сцэнічныя творы. Яе тэкст „Як звяры школу будавалі" быў самым цікавым праблескам тэатральнага агляду ў Кляшчэлях. Таксама і на апошні дзень школьнага года вучні IV і V класаў паставілі сцэнку аўтарства Аліцыі Станько „Педагагічная рада". Выступленне было класнае. У ім высвятліліся ўсе заганы настаўнікаў. Лёгкі гумар і складныя дыялогі спрыялі незабыўнай атмасферы. Разам з дзеткамі смяяліся з сябе і настаўнікі і запрошаныя госці. У канцы пастаноўкі ўсе настаўнікі атрымалі ганаровыя медалі.

Гурт „Лісічкі" таксама праспяваў некаторыя свае шэдэўры. Нядаўна дзеткі пабывалі на фестывалі нацыянальных меншасцей у Вэнгажэве. І ў час канікулаў будуць выступаць на многіх мерапрыемствах. „Лісічкі" існуюць ужо тры гады. Гэтым калектывам кіруе матушка Ала Кос. Некаторыя дзеткі з „Лісічак" спяваюць ужо ў дзіцячым царкоўным хоры.

Цяжка ўявіць сабе канец школьнага года без узнагарод і кранальных момантаў. Дырэктар школы Вера Дудзіч уручыла ўзнагароды і пасведчанні з чырвонай палоскай такім вось вучням-чацвёртакласнікам: Данелі Дудзіч, Паўліне Пашко, Ані Каролька, пяцікласнікам: Бэаце Мінько і Марце Монах, вучаніцы шостага класа Патрыцыі Кос і васьмікласніцы Мажэне Мінько.

Прысутны на школьным свяце старшыня Рады гміны Нарвы, Леанідас Казлоў уручыў грашавую ўзнагароду настаўніцы пачатковага навучання Люцыне Рушук. Такія ўзнагароды атрымалі таксама настаўніцы Мар'я Колнер (30 гадоў працы ў школе) і Хрысціна Сельвясюк.

За актыўнае ўдзельніцтва ў жыцці школы дырэкцыя і Гмінная ўправа ў Нарве ўзнагародзілі бацьку вучняў — Яна Селеванюка з Ласінкі.



*Паўліна Пашко (злева) і Наталька Кос.*

Зараз у Ласінцы 64 вучняў. Бацькі і настаўнікі не наракаюць на малую колькасць дзяцей. Думаюць нават пра пабудову новай школы.

— Таму, што ў нашай вёсцы будзе расці, а не падаць лік дзяцей, — кажуць яны.

Праўда, Ласінка — гэта вёска, якая жыве і блішчыць дзіцячымі артыстычнымі поспехамі.

**Ганна КАНДРАЦЮК**
*Фота аўтара*


*Выступаюць „Лісічкі".*

## Загадкі пра дрэвы

Адна я ў лесе з белаю карой.
Багата сокам веснавой парой.
* * *
Я засяваю долігліцай.
Спрадвеку слаўлюся жывіцай.
* * *
І ў сто гадоў я малады.
Маё насенне — жалуды.
* * *
Я зацвітаю кожным летам
не пышным —
ледзь прыкметным цветам.
Але як толькі зацвіту,
дык пчолы чуюць за вярсту.
* * *
Стаіць у лесе дрэўца,
пад ветрам лёгка гнецца,
а гронкі ягадак гараць,
і снегіры да іх ляцяць...
Хто здагадаецца,
як дрэўца называецца?
* * *
Заўсёды, летам і зімой,
мае іголачкі са мной.
Галінак у мяне багата.
Я сустракаю з вамі свята.

## Сонца і вецер

Старыя людзі расказваюць, што раз калісь касары і жанцы як сталі свісцаць, дзетвара запішчала ў дудкі, дык вецер і прыляцеў. Усе з радасці запелі:

Касары косяць, а сонца грэе,
Як ветра папросяць, то ён павее...

Ветру гэта спадабалася, дык ён так разгуляўся, што сонца разгневаў, а яно, не выцерпеўшы, кажа:

— Калі ты будзеш гэтак мяшацца ў мае справы, то я цябе спяку, як бульбу!

— Тэ-тэ-тэ! — кажа вецер. — Пакуль хвалько нахваліцца, то будзька набудзецца, значыць, пакуль ты мяне спячэш, то я з усяго свету зганю хмары ды так цябе захутаю, што ты не скора адтуль вызірнеш, каб пабачыць, што тут робіцца. А то як хочаш, яшчэ і ледавік дуне, дык вось табе тады і жанцы падзякуюць.

— Ну, годзе! Калі ты такі разумны, але пастой, вось як прыйдзе мароз, дык мы тады з табой пагамонім.

— Мароз, а што ж ён мне зробіць?

— Што зробіць? Замарозіць, як я схаваюся за хмару.

— Дык я ўсе хмары заганю туды, дзе і перац з роду не рос, а таму старому дурню марозу як стану дзьмуць у морду, то ён яшчэ сам размякне. Ды куды ж яму, беднаму, мяне перавярнуць у каўтлах!

*(Казка з Рэчыцкага раёна)*

# Вясёлы куточак

Агатка была любіміцай дзядулі і бабулі. Стараліся яны купляць ёй усё, што толькі захоча. Так было чатыры гады. Урэшце пачалі яны ўгаварваць Агатку, што ўсяго нельга мець у жыцці і таму трэба думаць, што маеш рэч, аб якой марыш, хаця яе ў сапраўднасці няма.

Аднойчы бабуля пайшла з унучкай на шпацыр. Агатка ішла два крокі перад бабуляй. Раптам крыкнула:

— Бабуля! Як ты ідзеш, ты дзяцей маіх топчаш! Я настаўніца, і іду з дзецьмі на шпацыр.

— Нейкія невідкі твае дзеці, — засмяялася бабуля.

— Яны ёсць, хаця іх няма, — упарта гаварыла дзяўчынка. — Не тапчы па іх, толькі адыдзі адзін крок управа.

* * *

Дзядуляаднае дзяўчынкі называўся Мікалай. Калі дзяўчынка прыязджала да яго ў госці, заўсёды пыталася, ці дзед мае ёй вялікі падарак.

— Гэта ж толькі твой дзядуля, а не святы Мікалай, — тлумачылі ёй.

— Не! — упіралася дзяўчынка. — Мікалай мусіць заўсёды даваць дзецям вялікія падаркі.

* * *

— Калі табе лепей, — пытаюць малога Дарка, — як ідзе дождж ці свеціць сонца?

— Мне вельмі добра, калі свеціць сонца. Я тады іду з мамай на шпацыр і мама купляе мне столькі марожанага, колькі я хачу.

* * *

— Чаму ты не вучышся? — пытае настаўнік матэматыкі трэцякласніка.

— Лічыць умею, то гэтага мне хопіць, а практыкаванні мне непатрэбны ў жыцці.

— Як будзеш вучыцца, то будзеш можа нават слаўным вынаходчыкам, — заахвочвае настаўнік.

— Ужо ўсё вынайшлі, — кажа вучань. — Нават выкапнёвых жывёлін умеюць вярнуць да жыцця.

**Ірэна САЛАВЕЙ**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Душа ў дрэве

— Дзіцём прыязджаў я ў Бельск з дзядзькам возам, на рынак, — расказваў на адкрыцці свае выстаўкі ў тамашняй ратушы Уладзімір Наўмюк. — Гэта быў першы горад, які я пабачыў. Вялікія дамы, процьма народу, многа крамаў. Сёння яшчэ помню смак купленых тут цукерак. Нават успаміны візіту ў дантыста — прыемныя. Таму я вельмі рады, што магу сёння паказаць свае работы жыхарам Бельска.

Выстаўка разьбяра з Канюк адкрылася 18 чэрвеня. У аднаўленай зале на першым паверсе (партэры) прэзентуюцца драўляныя скульптуры, якія ўражваюць дасканаласцю, завершанасцю формы і своеасаблівым — з лёгкай настальгіяй — настроем.

— Колькі ставілі помнікаў вялікім гэтага свету, — кажа Уладзімір Наўмюк, — колькі іх затым параскідалі, калі веліч паказанага героя меншала. А я ўсё жыццё раблю адзін помнік — майму народу: безыменным бабулям і дзядулям, бедным пастушкам і самародным музыкам, гаспадарам, суседзям. Захоўваю свет, які гіне на маіх вачах, якога сёння ўжо амаль няма. Адлюстроўваю ў дрэве запамятанае з дзяцінства, маладосці.

Са створаных разьбяром абліччаў можна чытаць не толькі жывыя пачуцці: страх, боль, надзею, радасць, але, калі добра ўглядзецца, відаць нават, ці на дворы сонца, ці дождж. „Непагода" — так называецца адна з прац, — гэта сумная бабуля, заклапочаная тым, што бесперапынна ідзе дождж, гніе сена, зарастае зеллем гародчык, круцяць рукі і ногі, ні куды выйсці, ні з кім пагаварыць.

Святыя Уладзіміра Наўмюка — з парэзанымі маршчынамі тварамі вясковых старэч. Спакутаваныя раматусам і непасільнай працай. Без арэола боскай усемагутнасці, але з душою. Блізкія.

Горача заахвочваю, не толькі бяльшчан, наведаць старую ратушу ў Бельску і пагледзець гэтую выстаўку. Будзе яна адкрытая да канца канікул.

**М. В.**



*Фота аўтара*

# Пасляконкурсныя ўражанні

Конкурсы — гэта вельмі добры спосаб на пашырэнне нашай актыўнасці ў галіне культуры, літаратуры, мовазнаўства. Усе могуць у іх прымаць удзел. Толькі што прайшоў II Агульнапольскі конкурс беларускай прозы і паэзіі. Пашанцавала мне заняць другое месца ў катэгорыі народнай творчасці, але калі я атрымаў з „Нівы" запрашэнне ў бельскую ратушу на ўрачыстасць уручэння ўзнагарод, зразу ўзнікла праблема як тут адарвацца ад штодзённых заняткаў пісьманосца і гаспадара. Цэлае шчасце, што ўдзельнікам конкурсу быў таксама спадар Славамір Кулік і ягоная дачка Ірэна, вядомыя чытачам як аўтары „Нівы" і „Зоркі". Неяк усе мы памесціліся ў „малюху" спадара Куліка, а я паспеў яшчэ справіцца са службовымі абавязкамі. У Бельску сустрэў я шмат знаёмых: Яўгена Мірановіча, Надзею Артымовіч, слаўную нашу Аўрору — Ірэну Лукшу з маленькім „паэтам" на руках і Мікалая Лук'янюка. Калі б не конкурс, не было б нагоды для такой сустрэчы.

У ратушы дамінаваў малады авангард — вучні пачатковых і сярэдніх школ. Удзельнікаў і гасцей прывітаў старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа, які разам з рэдакцыяй „Нівы" быў арганізатарам мерапрыемства. Вапа расказаў пра мэты конкурсу, а Ян Максімюк — старшыня камісіі, якая ацэньвала працы, прадставіў яго вынікі.

Узнагароды ўручаў сам дырэктар Аддзела культуры Ваяводскай управы Казімеж Дэркоўскі. Пасля лаўрэаты чыталі свае вершы, а на заканчэнне калектыў, якім кіруе Эля Тамчук выканаў мастацкую частку на аснове твораў з мінулагодняга конкурсу.

Калі б у будучыні арганізавалася такая ўрачыстасць, тады прапаную правесці яе ў нядзелю. Тады ніхто не будзе рвацца дадому, а ўсе маглі б сесці за адным сталом, як сям'я, напіцца кавы, пагаварыць. Людзей, якія яшчэ пішуць на беларускай мове, не так ужо многа. Мы павінны бліжэй пазнаёміцца.

**Мікалай Панфілюк**

Які мы людзі

# Не пазнала

Скажыце, ці звярнулі вы ўвагу на старэчаў, якія — амаль як штатная адзінка — тырчаць на кожным пахаванні, што адбываецца не толькі ў сям'і, але і ў бліжэйшым ды далейшым асяроддзі сваякоў і знаёмых? Бо я гляджу на гэткіх людцоў і дзіву дзіўлюся, асабліва тады, калі пхаюцца яны чым бліжэй да ямы, у якую ўкладваюць нябожчыка: заўтра ж і іх туды палажаць, а можа і нас, крыху маладзейшых. Стары, вядома, мусіць памерці, але і малады можа.

Ды толькі ў падсвядомасці чалавека існуе цвёрдае перакананне, што менавіта ён будзе існаваць вечна. І дзякуй Богу, бо інакш жыццё было б невыносным падарункам. Вядома, калісьці трэба будзе памерці, але калі гэта яшчэ будзе!.. Усе блізкія, знаёмыя паміраюць па чарзе, але ж мяне гэта не датычыцца. Можа калісь, калісь, праз шмат гадоў... Але пра гэта лепш не думаць.

* * *

Прабач, даражэнькі чытач, за такі мінорны ўступ. Але ж неяк цябе трэба было падрыхтаваць. Бо, бачыш, датычыцца гэта не толькі пераканання чалавека ў сваёй вечнасці, але і ў тым, што ён нязменны. Хтосьці старэе, а я — не. Я — нязменны. Малады і заўсёды прыгожы.

Вельмі не люблю размоў пра тое, хто які стаў брыдкі. Хацелася б чалавека (хіба што была б гэта суперніца ў мужчынска-дамскіх справах) пацешыць, які ён яшчэ малады і моцны. На жаль, небяспечна сказаць іншаму: „Ах, як молада вы выглядаеце!" Бо ён табе неспадзеўкі возьме ды адкажа з чароўнай усмешкай на твары: „Але вы пастарэлі, ой, пастарэлі!.." І таму на гэту тэму лепш гаварыць асцярожна.

* * *

Аднойчы мы са старэйшай сястрой наведалі яе сяброўку. Хаця яна ведала, што мы прыедзем да яе, то сустрэла нас на парозе сваёй кватэры ў абвіслай сукенцы, зашпіленай на выпучаным жываце. Што і гаварыць, баба была, як таўкач. Ну, што ж, ёй ужо пад шэсцьдзесят... Ці ж чалавеку ўжо ў галаве, каб дбаць пра сябе... Мне нават зрабілася крыху сорамна, што я так „адвалілася", ідучы да яе ў госці: і прычоска, і вопратка, і абутак былі ў духу часу. А да таго ж яшчэ я была за яе значна маладзейшая.

Мы прайшлі ў пакой, і сяброўка маёй сястры, з якой не бачыліся мы многа гадоў, аж успляснула рукамі, глянуўшы на мяне: „Божачкі, што з табой зрабілася?!" Я глянула на яе ў недаўменні, а яна працягвала: „А такая ж была дзяўчынка! Зараз, колькі гэта было табе тады? Ага, дванаццаць гадоў. Ой, якая была дзяўчынка...".

Я не пакрыўдзілася. Кажу: „А цяпер у мяне ўнучка хутка будзе такая!" Сястрына сяброўка, быццам апрытомнеўшы, сказала: „Што?!" — і больш ужо сваіх уваг не чыніла.

Людзі запамінаюць чалавека такім, якім быў ён у моманце расстання. Калісьці мой бацька, узяўшы за руку маю дачушку, вырашыў наведаць старую вуліцу на перыферыі, на якой мы калісьці жылі. Тут засталося шмат сваякоў і знаёмых. Зайшоў у першую хату, а людзі кажуць: „А гэта, пэўна, будзе ваша Адарка?!" „Не, — адказаў ім бацька. — Гэта ўжо мая ўнучка, Адарчына дачка".

На адных з вясковых памінак падышла да мяне пажылая жанчына. Сумны твар, уся постаць шэрая — як і павінна быць на памінках, бо памінаюць заўсёды некага блізкага. Я таксама нават губоў не падмалявала. Цяжка. Памінаюць жа сваячку мужа.

Жанчына падышла да мяне і жахнулася: „А Божа мой, як ты пастарэла!" Яе жах і перапуд у вачах быў настолькі аўтэнтычны, што мне стала няёмка за свой выгляд і я пачала тлумачыцца: „Ну, ведаеце, я і сама ведаю, што пастарэла. У маладосці ўсе выглядаюць інакш. Што зробіш, такі свет, што ўсё навокал змяняецца: і людзі, і наваколле! А мы ж — часцінка прыроды, марны пылок, які нічога не вырашае пра свой лёс, які нам зверху, вы ж ведаеце, наканаваны".

Я так тлумачылася ёй доўга і завіліста са свайго старэчага выгляду, а яна, адкрыўшы рот, глядзела на мяне і нечага ўсё ж (я гэта бачыла) не разумела. А пасля не вытрымала і запыталася: „Ада, а чом ты да мяне гаворыш „вы", а не „ты"? Я схамянулася. „А, прабачце, вы хто будзеце?" — „Ну, як жа, ты Зосі, Верчынай сястры не пазнала?"

Сапраўды, у гэтай вёсцы 32 гады таму я сядзела з дзіцём цэлы тыдзень. У яе сястры, жонкі мужавага дваюраднага брата, а жылі яны побач.

„Ой-ё-ёй, то значыцца і я пастарэла", — маркотная жанчына адышла ад мяне, а мне стала прыкра, што я яе не пазнала.

**Ада Чачуга**

# Фэст у Нарве

Прыгожае сонечнае надвор'е прывабіла многіх нарвян і жыхароў навакольных вёсак на народны фэст, арганізаваны ГП БГКТ супольна з гміннымі ўладамі ў нядзелю 22 чэрвеня.

Фэст адкрыў войт гміны Нарва Ян Іванюк, які сардэчна прывітаў паслоў у Сейм Станіслава Малішэўскага і Сяргея Плеву, віцэ-консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку Паўла Латушку і ўсіх прысутных на фэсце. Аддаў ён голас старшыні ГП БГКТ Янку Сычэўскаму, які сардэчна падзякаваў войту гміны Нарва Яну Іванюку і дырэктару нараўскага Асяродка культуры Ірэне Шастай за дапамогу ў падрыхтоўцы фэсту. Запрасіў ён усіх прысутных на чарговае Купалле ў Белавежу.

Канцэртную праграму павяла сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч. У мастацкай частцы першым выступіў дзіцячы эстрадны калектыў з Нарвы „Малады Пронар" пад мастацкім кіраўніцтвам Генадзя Шэмета, з малым салістам Янкам Шэметам. Чарговым дзіцячым калектывам былі „Лісічкі" з Ласінкі, пад кіраўніцтвам Аліны Кос, які ў конкурсе „Беларуская песня" для пачатковых школ заваяваў першае месца. Пасля выступаў калектыў „Крывічанкі" з Крыўца. Вялікім поспехам карысталіся „Прымакі" з Беластока — дуэт Юрка Астапчук і Багдан Місяюк, а таксама касета з песнямі ў іх выкананні.

Асабліва выдзяляліся вучні-акардэаністы з Падставовай музычнай школы першай ступені з Бельска-Падляшскага. Выступіў квартэт пад кіраўніцтвам Багдана Драздоўскага і трыо пад кіраўніцтвам Эўгеніюша Сахажэўскага. Наймалодшы вучань, любімец школы Арэк Купрыяновіч дасканала выканаў на акардэоне вальс італьянскага кампазітара Джаакіна Расіні.

Потым выступалі „Тыневічанкі" з Тыневіч пад кіраўніцтвам Валянціны Франкоўскай і акампаніятара-акардэаніста Сямёна Карнілюка.

Асабліва развесяліў публіку калектыў дыска-пола „Даміно" з Беластока, які выконваў польскія песні ў рытме танцавальнай музыкі. Потым гэты калектыў іграў мясцовай моладзі на танцавальнай вечарыне.

Танцавальныя мелодыі прадоўжыў на фэсце шматлікі мастацкі дзіцячы калектыў з Нарвы, якім кіруе Анна Баран.

Пронарскі дуэт выканаў некалькі песень на словы вядомага „белавежца" Віктара Стахвюка ў цікавай музычнай апрацоўцы Генадзя Шэмета.

На заканчэнне трохгадзіннага канцэрта выступілі папулярныя „Прымакі" з другой часткай сваёй праграмы.

**В. Ш.**



*Балет дзяцей з Нараўскага асяродка культуры.*

*Фота Міколы Ваўранюка*



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# BICOM — граза хвароб

**— Я, як лекар, не веру ў ніякае парамедычнае лячэнне! Таму вы не пытайцеся ў мяне пра акупунктуру, пра апараты „BICOM" і „MRT-2". Зрэшты, яны ў нас грошы забіраюць, — прызналася педыятр з амбулаторыі н-р 6 у Беластоку.**

Ад нейкага часу паяўляліся рэкламы пра згаданыя апараты, якія лечаць і прадухіляюць розныя захворванні. Цяпер у Беластоку маюць іх два кабінеты, у якіх працуюць спецыялісты па такой тэрапіі, дактары розных спецыяльнасцей, якія да сваіх медычных ведаў дадалі і такую — як без болю выгнаць з цела хваробу.

Найбольш людзей

**прыходзяць з алергіяй.**

Кожны трэці еўрапеец пакутуе гэтай хваробай, лічыць праф. Павел Гурскі. The UCB Institute of Allergy апрацаваў *Белую кнігу алергіі*, з якое вынікае страшэнны ўзрост захворванняў на гэтую хваробу. У Польшчы каля 10 прац. дзяцей ад 2 да 12 гадоў хварэе астмай, але толькі 3 прац. з гэтай колькасці лечыцца менавіта ад астмы. Хвароба можа праявіцца нават у сталым узросце — алергія на пылкі квітнеючых раслін, пыл, поўсць, ежу, хімічныя „ўдасканаленні" страў, яд насякомых, металы... Традыцыйныя тэсты, якія выкрываюць празмерную ўражлівасць на алерген, досыць непрыемныя і стрэсуючыя, асабліва для дзяцей. На апараце „BICOM" яны „безінвазійныя". Тэст на 95 алергенаў праводзіцца досыць хутка, і вынік адразу вядомы. Пасля можна „адчуліць" напрыклад сваю празмерную ўражлівасць на малако, яйкі, пшаніцу (3 сеансы), пыл, пер'е, цытрусы, жывёльную поўсць, пыл, какаву (за 1 раз)...

— Мэтай біярэзананснай тэрапіі ёсць запусціць актыўнасць уласных сілаў рэгулявання арганізма, — кажа Багдан Усташэўскі з кабінета „PRO-MEDIC" (вул. Варшаўская, 81). — І такім чынам вызваленне яго ад нагрузак парушаючых тую рэгуляцыю, каб даць магчымасць выздараўлення.

— Гучыць гэта для мяне вельмі мудра і падазрона, не менш чым для іншых, — азываюся скептычна. — Чалавек верыць напрыклад хірургу, бо яго працу відаць простым вокам. А тут — сціплы апарат, нейкія кабелі, камп'ютэрныя „entery"... Якіясьці накладкі... Ці гэта той славуты „BICOM"?

— Ён — гэта самая сучасная апаратура, сканструяваная ў Інстытуце Бругемана ў Мюнхене. Выкарыстоўваем нядаўна адкрытую з'яву біярэзанансу, якая здзяйсняецца ў кожным жывым арганізме. Асноўную ролю ў ёй мае ўплыў электрамагнітных хваляў. Біяхімічныя рэакцыі і фізіялагічныя працэсы падлягаюць рэгуляцыі і каардынацыі дзякуючы вібрацыі электрамагнітнага поля. Свае вібрацыі ствараюць таксама і хваробатворныя фактары — вірусы, бактэрыі і іх таксіны, алергены, металы і атруты. Іх вібрацыі парушаюць каардынацыйныя і рэгуляцыйныя працэсы ў арганізме.

**Біярэзанансная тэрапія**

заключаецца ў тым, што ўзмацняюцца хвалі фізіялагічныя, а выгашаюцца, падаўляюцца паталагічныя вібрацыі, аслабляюцца хаця б настолькі, каб успамагчы рэгуляцыйныя працэсы. Такім чынам, так як у акупунктуры і акупрэсуры, пабуджаюцца ўласныя абарончыя сілы арганізма...

— Я бачу, што да чалавека падключаецца... электраток?!

— Гэтыя „электроды" працуюць як антэны. Збіраюць электрамагнітныя вібрацыі з арганізма пацыента і падаюць кабелямі апарату. „BICOM" сепарыруе вібрацыі фізіялагічныя ад паталагічных. Першыя адсылае ў арганізм узмоцненыя, а другія — адварочвае (у люстраным адбітку) і таксама перадае пацыенту ўзмоцненыя. Антывібрацыі накладваюцца на арыгінальныя, аслабляюць іх ці зусім выгашваюць. Выкарыстоўваем у час тэрапіі і вібрацыі напр. сліны пацыента, а таксама адваротныя вібрацыі алергена.

— Бачу выразна надрукавана, каб пацыент здалёк бачыў, што пасля сеанса трэба выпіць найменш 2 літры вады.

— Наша тэрапія прыспешвае таксама выкідванне з арганізма накопленых шлакаў, шкодных субстанцый (прадуктаў абмену матэрыі і таксін) цераз ныркі, кішкі і скуру. Таму і трэба выпіць шмат вады, найлепш негазіраванай мінералкі.

— Бачу ў вашых спісках найбольш пацыентаў малых, дзяцей-алергікаў. Але ж у вашай настольнай кнізе ёсць больш за 270 праграм на розныя нямогласці.

— З чым прыходзяць людзі: алергія, празмерная ўражлівасць і нechaлерантнасць на ежу, якія праяўляюцца м.інш. у сянной ліхаманцы, экземе, астме, насах, кан'юнктывіце (zapalenie spojówek). Да таго — болевыя комплексы пасля траўмаў і запальных, болі мышцаў і суставаў, радыкуліт, раматус; захворванні ад таксін (цяжкія металы, кансерванты, хімічныя рэчывы); захворванні геапатычныя і ад электрасмогу; аслабленне імунітэту, частыя інфекцыі дыхальных дарог, асабліва ў дзяцей; захворванні сэрца і кровазвароту; хваробы страваваўнага канала; вочы, шчытападобная залоза...

— І іншыя, больш хіба касметычнага характару, як, напрыклад, цэлюліт, якія псуе жаночыя сцёгны... Часам на адну хваробу ёсць з дваццаць праграм, напрыклад, ад бяссонніцы... Але хіба найбольш вашых пацыентаў — малыя алергікі. Вылечванне алергіі дае найбольш відавочныя вынікі: знікаюць плямы, прышчы, экзема са скуры твару, з усяго цела, дзеці могуць пасля серыі сеансаў есці прадукты, якіх ім дагэтуль нельга было... Вядома,

гэта ўсё каштуе

але вынікі гавораць самі за сябе.

Я размаўляю з жанчынай, якой сын пакутаваў эпілепсіяй. Пасля шасці тэрапіяў не мае ўжо прыпадкаў. Дзядзька ў гадах хваліцца: „Меў я язву дванаццаціперснай кішкі. Пасля шасці тэрапіяў лекары ў бальніцы не маглі надзівавацца — загаілася. Цяпер лячу пазваночнік". — „А ў мяне ўзровень глюкозы ў плазме зменшыўся з 220 да 107 мг", — кажа маладжавая кабета. „А я хварэла шмат чым, не дапамагалі мне ні лякарствы, ні дыета, — кажа пані Оля. — Уратаваў мяне гэты „BICOM"! Напішыце, калі ласка, хай людзі ведаюць! Гэта не рэклама, а ратунак для хворых. А вынікі можна пацвердзіць у лабараторыях, на здымках".

— Ну, дык і я паддамся гэтай апаратуры, — кажу Багдану Усташэўскаму і Здзіславу Купкоўскаму, што працуюць у „PRO-MEDIC". — Нават біяэнергатэрапеўта не пабаялася, каб праверыць і напісаць, як яно ёсць.

— Ой, што вы кажаце! — хвалююцца лекары. — У нас жа ўсё навукова!

**Міра Лукша**

*Фота аўтара*



*Найбольш дзяцей прыходзіць з алергіяй.*

<u>Хроніка жыцця</u>

# Доўг

Васіль, згодна са сваёй звычкаю, праверыў ці добра пазачыняў нанач хлявы, аформіў за вуглом сваю фізіялагічную патрэбу ды абцёршы аб траву чобаты накіраваўся ў хату. Вочы, прывыклыя да асядаючай ночы, не патрабавалі запальваць у сенях святло. Рука прывычна бразнула засаўкай, абвяшчаючы канец дзённых турбот. З-за фіранкі, аддзяляючай кухню ад пакойчыка, дзе стаяў іх шлюбны ложак, прасочвалася жоўтае святло. Жонка корпалася за вячэрай. Перакусіўшы, Васіль ужо хацеў стаць на калені перад абразамі да вячэрняй малітвы, калі пачуў скрып уязной на панадворак брамы. Прыслухаўся.

— Што за халера? — спытаў сам сябе ў думках. — Прыдалося ці што?

Але Вольга таксама пачула і выглянула з-за фіранкі з маўклівым пытаннем у вачах.

Неўзабаве з панадворка данеслася пафыркванне конскіх храпаў. Не было сумненняў што нехта прыехаў.

— Хто гэта так позна? — спыталася ні то здзіўлена, ні то спалохана Вольга.

Паціснуўшы плячыма Васіль моўчкі падышоў да акна. Прыпадняўшы левай рукою ражок фіранкі, правай захіліўшыся ад падаючага з кухні святла, прыткнуў твар да шыбіны, прызвычайваючы вочы да асеўшай за акном цемры.

— Хіба што кум Валодзя... — сказаў нібы сам да сябе, але Вольга гэта добра чула.

— Ты што, стары, здурэў?! Мабыць агледзеўся. Чаго ж бы ён цягнуўся дзесяць кіламетраў, ды яшчэ і ноччу? То ж вы ў чацвер у Бельску на рынку бачыліся. Сказаў бы, што меў сказаць. А, можа, бяда якая? — і сама спалохана завойкала, успамінаючы Бога.

Стук у дзверы і бразганне клямкай спынілі іх думкі.

— Хто? — прывычна ды і на ўсякі выпадак спытаў Васіль, стоячы басаном у сенях і трымаючыся за клямку.

— Я! Ну, кум, Валодзя Гаўрылаў.

Запішчэла адсоўваная засаўка.

— Заходзь. А што ноччу прыгнала? Бяда якая? — спытаў Васіль.

— Няйначай, няшчасце нейкае? — заламала рукі Вольга і не зводзіла з Валодзі падазрона-палахлівага позірку. — З Гандзяю можа што дрэннага?

— Не! Нічога не здарылася, усе здаровыя! — адказаў Валодзя, скідаючы прамоклае паліто, бо на двары ад поўдня ішоў дождж. — Проста, ехаў, ды заехаў, — прадаўжаў, корпаючыся ў выпханай палатнянай торбе.

Неўзабаве паставіў на стол паўлітроўку. Затым паявіліся, той жа самаю дарогаю, ладны кавалак варанай свініны, пара каўбас, ад якіх панесла дымам палёнай альшыны да паўбуханкі свежага вясковага хлеба. Васілю і Вольцы вочы палезлі на лоб ад здзіўлення, тым больш, што не раз нават у сваёй хаце Васіль і кубка гарбаты не скоры быў падаць, а тут во — колькі шчасця.

— Што ты, кум, адурэў?! — спытаў Васіль.

— Ну, так! — паўтарыла за мужам Вольга. — То ты думаеш, што ў нас есці няма чаго?

— Я ведаю, што раблю, — сказаў Валодзя, падымаючы ўгару ўладарна і ганарыста правую руку з адкрытай далонню.

— Пі, куме! — дадаў, наліўшы ў пастаўленыя Вольгаю чаркі. — Пі, ты ў мяне варты.

Васіль спачатку прабаваў даведацца, што, як і за што, але кум адмахнуўся толькі рукою як ад назойлівага авадня.

— Няма аб чым гаварыць! Пі, і вы, кумо, выпіце. Вы абое ў мяне вартыя. Такое дабро зрабіць... Ай-яй-яй, — пакруціў галавою.

Гарэлка расплывалася па целе прыемнай цеплынёю і лагодненька казытала па мазгах. Гаварылі аб усім. Перасыпалі суседа за суседам, успаміналі, марылі, але Васіль, як ні стараўся, як ні хітраваў, ніяк не мог выціснуць з кума прычыны гэтакай шалёнай шчодрасці. Але здзіўленне было яшчэ большае, калі апусцелую бутэльку Васіль падмяніў поўнай, прыгаварваючы:

— Не перажывай Васіль, не думай, толькі пі. Варты ты ў мяне, ой варты.

Васіль як хацеў нешта сказаць, так і застаўся з адкрытым ротам. Глытануў моўчкі чарку, абцёр рукавом вусны ды старым звычаем панюхаў хлеб, каб не ўпіцца. Але гарэлка, хаця і чаркі былі невялікія, зрабіла сваё. Тым больш, што Вольга ім амаль зусім не дапамагала. Яна такая звычайная мачымордa, як называў яе Васіль — возьме чарку і мочыць у ёй вусны ўвесь вечар.

У бутэльцы гарызантальны ўзровень пацяшаючай вадкасці ўсё паніжаўся. Урэшце дно сказала „хопіць".

— Ну, Васіль, табе на дачку, — сказаў кум, выліваючы рэшту, а сам схіліўся, сунуў руку ў свой мяшок, адкуль выцягнуў трэцюю паўлітроўку. Васіль, хаця і падвыпіўшы, але сваё знаў.

— Так, Валодзя, нельга! Ты ў маёй хаце і са сваім. То ты што думаеш, што я галяк і не маю чым госця прыняць? Хадзі, пакажу! — пацягнуў кума за руку. — Хадзі да каморы, пабачыш колькі ў засеку стаіць і колькі каўбас на градцы вісіць.

— Ты што, кум! Я веру. Не раз яшчэ вып'ем і тваю гарэлку. Але я перад табою ў даўгу. Пі, далібог, ты ў мяне варты. Сам не ведаеш, якое ты мне дабро зрабіў. Родны брат гэтага не зрабіў бы. Пі!

— То ты ўжо выпі, Васіль, калі просяць, — уключылася Вольга. — Заўтра нядзеля, адпачнеш.

Зноў зазвінелі чаркі і прадаўжалася п'яная гаворка.

Васіль усё чакаў адпаведнай хвіліны. Чым больш усё рабілася таямнічым, тым мацней крычала ў Васілю цікавасць. Ды і Вольга, міргаючы мужу, давала яму знакі, што моў даведайся! Калі набліжалася дно трэцяй бутэлькі, Васіль не вытрымаў і рэзка спыніў кума:

— Не вып'ю, калі не скажаш, за якую гэта маю дабрату ты так раскашэліўся.

Валодзя, разліўшы апошнюю гарэлку, сказаў:

— Ну, добра! Скажу! Ты бачыш, у мяне падрубы пад хлявамі пасыпаліся. Вось і ўспомніў я пра цябе. Круцілі ды вас мы з сынам Мікалаем у цябе ў лесе тры сасонкі, такія як у абхват, зрэзалі. Ну, сам скажы, — не варты ты?!

Васіль як узяў кавалак каўбасы, дык і затрымаў яго перад разяўленым ротам.

— Ну, добра, позна! Паеду ўжо, — закончыў кум.

**Міхаль Пашкоўскі**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Хоць старая і брыдкая...

Юрась і Марыся пабраліся шлюбам з вялікага кахання. Жылося ім добра, толькі што дзяцей ім Бог не даваў. Вядома, Марысі такое не цешыла. Што гэта за жыццё без дзяцей, наракала, што нажывем, чужым застанецца.

— А я не хачу мець дзяцей, — цвердзіў Юрась. — Нашто яны! Колькі з імі клопату. Малыя спаць не даюць, а вялікія жыць. Усё ім давай і давай. А ці нам адным кепска? Куды хочам, туды і едзем, калі хочам ідзем спаць, калі хочам устаем... Пры дзецях не было б так, праўда ці не?

— Ты, Юрась, толькі так кажаш, а каб меў сына ці дачку, быў бы рады, — не здавалася Марыся.

Ішлі год за годам, а Марыся ўсё ездзіла па спецыялістах-гінеколагах. Марыла зацяжарыць, нарадзіць дзіцятка. А муж быў задаволены, што з дзецьмі клопату ў хаце няма.

Так прайшло пятнаццаць гадоў.

Урэшце знайшоўся лекар, які высветліў прычыну Марысінай бясплоднасці. Прапісаў беднай жанчыне адпаведныя лякарствы. Далі яны карысны для яе вынік. Калі Юрась даведаўся аб доўгачаканай ёю цяжарнасці, кінуўся ў злосць. Хадзіў пахмурны. Жонка думала, што яму тое пройдзе, ды не. Гаварыў з ёю рэдка, а не раз было так, што і нанач дамоў не прыходзіў.

Калі Марыся была ў палове тэрміну цяжарнасці, Юрась перасяліўся да суседкі, старое дзеўкі. Старэйшай ад яго, ды і вельмі непрыгожай.

— Ты, Юрась, чаму ты кінуў Марыську? — дапытваліся суседзі. — Яна ж такая харошая, і дзіцятка мець будзе...

— Хоць Нюрка старая і брыдкая, ды бяздзетная. На халеру мне гаўнякі ў хаце! — упарціўся дзівак.

Марыся нарадзіла сына. Юрась плаціць аліменты, але немаўляткам не цікавіцца. Ну, кажа, не любіць ён дзяцей, і ўсё.

**Аўрора**

# У пошуках патрона

Белавежскі асяродак культуры аб'явіў конкурс на патрона для Гміннай бібліятэкі. Нагодай для гэтага стала святкаванне 400-годдзя Белавежы. На думку БАКу, у кандыдаты падыходзілі б пісьменнікі: Ігар Нэверлі (дарэчы, ураджэнец Белавежы), Эліза Ажэшка, Генрык Сянкевіч, Фердынанд Антоні Асандоўскі. Тры апошнія пісьменнікі ў свой час наведалі Белавежскую пушчу і пасля адвялі ёй крыху месца ў сваіх творах.

Мясцовы штомесячнік „Голас Белавежы” пачаў з мая г.г. рэкамендаваць паасобных кандыдатаў у патроны. Не абазначае ўсё гэта, што нельга паставіць свайго кандыдата. Разглядацца будуць усе прапановы. У згаданай справе можна тэлефанаваць у белавежскую бібліятэку на н-р 12-359.

**Пётр Байко**

# Як гэта будзе?

Пайшла чутка, што пенсіі сялянам не будуць выплачваць пісьманосцы, а толькі трэба будзе ездзіць у банк. Гэты банк часамі ёсць аддалены на 15 і больш кіламетраў і там прыйдзецца пенсіянерам стаяць у чарзе за сваёй пенсіяй. Я цікавы, што выдумае КРУС, каб старэнькім сялянам яшчэ горш зрабіць. Кажуць, што банкі дадуць сялянам чэкавыя кніжкі, але што з таго, калі ўжо з вёсак згінулі гмінныя гэзсаўскія крамы, у якіх можна было рэалізаваць чэкі. Цяпер па вёсках ездзяць аб'язныя крамы і яны чэкаў прымаць не будуць.

Мая думка такая: калі КРУС абавязаўся даслаць пенсіянеру грошы, тады банкі павінны прыняць на работу пасыльных, якія будуць развозіць пенсіі па вёсках.

**Мікалай Лук'янюк**

# Адгалоскі

## Фальшаванне гісторыі

Зацікавіў мяне адзін, даслоўна адзін, сказ у тэксце „Pierścionek Jagiełły” В. Каліцкага („Gazeta — Magazyn” nr 23/222). Аўтар піша: „Stąd wziął się pomysł wydania Jadwigi za wielkiego księcia litewskiego Jagiełłę, po uprzednim ochrzczeniu litewskiego (вылучэнне — М. К.) władcy i jego pogańskich (выл. — М. К.) poddanych”. Праўда, гэта не яго сцвярджэнні, бо пры канцы артыкула падае крыніцы, якімі ён карыстаўся, але аднак аўтар не дае ніякіх абвяржэнняў. З таго, аб чым піша В. Каліцкі, вынікае, што Ягайла быў язычнікам, і што яго ахрысцілі тады, калі жаніўся з Ядвігай, каралевай Польшчы (у 1386 годзе). Чытаючы тэкст В. Каліцкага насоўваюцца самі па сабе наступныя пытанні: ці фактычна так было, як піша аўтар, ці толькі ён так думае, што так было?

Павел Ясеніца ў кніжцы „Polska Jagiellonów” піша: „12 lutego Jagiełło triumfalnie wjechał do Krakowa, 15 lutego przyjął katolicyzm”. Затым „przyjął katolicyzm” абазначае тое самае, што ахрысціўся, быўшы язычнікам? Як гэта ёсць сапраўды? З аднаго боку ведаем з гісторыі Беларусі, што Ягайла быў праваслаўным, і што яго падданыя то былі хрышчаны, то ад веры хрысціянскай адказваліся. З другога боку ў каталіцкай свядомасці ў Польшчы існуе перакананне, што цывілізацыю ў Вялікае княства Літоўскае ўнесла унія з Польшчай.

Затым як яно ёсць? Думаю, што не толькі я разгублены. Аказваецца, што пункт гледжання гісторыкаў залежыць не ад аб'ектыўнай праўды, а ад таго, каму яны служаць. На шчасце, існуе ў Беластоку Беларускае гістарычнае таварыства, і спадзяюся, што згуртаваныя ў ім гісторыкі не дапусцяць да зафальшавання праўды аб нашых суадносінах з заходнім суседам, з якім тварылі мы супольную магутную дзяржаву.

**Міхась Куптэль**

## Паважаная Рэдакцыя!

У 25 нумары (ад 22 чэрвеня 1997 г.) „Нівы” ёсць маё інтэрв'ю з Віталіем Здравамыславым. Дзякую за хуткае яго надрукаванне, але, дальбог, ні я, ні герой размовы не ведаем, з якой яно нагоды.

Я, пакуль пачаў задаваць пытанні, сказаў: „У мінулым, 1996 годзе па Польшчы прайшла хваля ўзнагарод медалямі „50 год перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945”, а ў бягучым — 1997 г. праходзіць такая ж хваля ўзнагарод „медалём ім. Георгія Жукава”. Вось іменна з гэтай нагоды была гутарка. А Вы — ні прыслухаў, ні прылатаў. Акрамя таго Рэдакцыя не падала названых мною, хаця б пару ўзнагарод В. З., бо не так так часта салдаты атрымлівалі Ордэн Славы.

Я не маю права ні ахвоты ўмешвацца ў працу і правы Рэдакцыі, але на мой погляд, зроблена так, каб кагосьці з нас дыскрэдытаваць. Бо нават не пададзена таго, чым Віталь Здравамыслаў займаецца сёння як грамадскі дзеяч. А ён з'яўляецца сакратаром Гуртка былых салдатаў СА пры Ваяводскай управе Саюза ветэранаў РП і палітычных вязняў. А найгоршае з усяго ёсць тое, што, напрыклад, адгалоскі надрукаваны на 5 старонцы, а выказванні заслужанага ваеннага і грамадскага дзеяча — на 10.

Вельмі прашу не ігнараваць маёй заўвагі, бо мне сорамна перад Сябрам і ўсімі, хто чытае „Ніву”.

**Васіль Петручук**

# У дружбе з прыродай

**У наш час, у перыяд цывілізацыйнага прагрэсу, чыстыя яшчэ нядаўна рэчкі, азёры і навакольнае асяроддзе з кожным днём становяцца больш забруджанымі і адначасна бяднейшымі ў флору і фауну. Летнія месяцы — час масавага летняга адпачынку дзяцей, моладзі і дарослых. Знясілены навукай і працай чалавек шукае саюзніка ў прыродзе.**

7 чэрвеня 1997 г. на вырабатцы з-пад старой цагельні ў Орлі, у якой знаходзіцца чысты вадаём паверхняй у 2 га, адбыліся спаборніцтвы па рыбнай лоўлі членаў мясцовага рыбалоўнага гуртка і прыбіранне наваколля аквена.

На месцы спаборніцтваў сустрэў **Мікалая РЭНГАЙЛУ** — скарбніка рыбалоўнага гуртка, мясцовага раднага.

— Наш гуртох налічвае 120 аматараў рыбалкі і гуртуе людзей розных узростаў — ад вучняў пачатковых школ па 90-гадовых пенсіянераў. Гэтае вадасховішча паўстала пасля 1974 года, калі была закрыта цагельня. Добраўпарадкавалі мы яго з думкай пра пажылых рыбаловаў, якім цяжка ехаць дзесьці далей на рыбалку. Вадаём дае нам і радасць ад вуджэння, і адпачынак. Вада тут чыстая, і ў некаторых месцах глыбокая на 20 метраў.

Абавязкі скарбніка выконваю ўжо пяць гадоў і толькі з гэтага часу ў гуртку з'явіліся свае грошы на банкаўскім рахунку. Цяпер маем 1700 зл. Раней былі адны страты і нейкія махлярствы. Кожную восень вудзільшчыкі сустракаюцца на агульным сходзе і вырашаюць справы рыбагадоўлі і чысціні асяроддзя. А збіраемся мы традыцыйна ў кавярні „У Марка”. Яе ўладальнік, Марк Хмялеўскі, таксама з'яўляецца заўзятым рыбаловам.

Ужо больш за 10 гадоў арлянскі вадаём зарыбляе аддзяленне Полскага рыбалоўнага саюза з Беластока. Запускаюць тут у год па 300 кг маляўкі карпа, таўсталобіка, плоткі, ліня і ляшча. Сёлета плануем купіць 10 кг маляўкі вугра. Змагаемся таксама з браканьерамі.

У спаборніцтвах, якія працягваліся тры гадзіны, прыняло ўдзел 20 вудзільшчыкаў, у тым ліку 86-гадовы пенсіянер Аляксандр Карнееў. Кожны ўдзельнік атрымаў абазначанае сцяжкамі поле, з якога трэба было вылавіць як найбольш рыб. За кожную злоўленую рыбіну вудзільшчык атрымоўваў адпаведную колькасць ачкоў (залежна ад вагі), а малыя рыбкі ўпускаліся назад у ваду.

Самую вялікую рыбу злавіў Ілья Кубаеўскі з Орлі, якому пашанцавала злавіць яшчэ некалькі вялікаватых карпаў. Паводле колькасці набраных ачкоў першым аказаўся Славамір Сахарэвіч. Другое месца заваяваў Ілья Кубаеўскі, а трэцяе — Юры Жабінскі. Сярод юніёраў найлепшым вудзільшчыкам аказаўся Тамаш Адзіевіч. Усе пераможцы атрымалі памятныя дыпломы і сціплыя сувеніры. Яны атрымалі таксама права змагацца на ваяводскіх спаборніцтвах, якія адбудуцца на рацэ Бугу.



*Удзельнікі рыбалоўных спаборніцтваў.*

Пасля спаборніцтваў вудзільшчыкі правялі акцыю ўборкі тэрыторыі вакол вадаёма. Мяшкі для сабранага смецця падрыхтаваў Марк Хмялеўскі.

* * *

Спаборніцтвы аматараў рыбалкі і заадно суботні адпачынак прайшлі ў дружбе з прыродай, сумленна і з адказнасцю, у спакоі і цішыні, якую час ад часу парушаў гул нізка пралятаючых ваенных самалётаў „Іскра”. Ад сустрэчы вудзільшчыкаў засталіся толькі здымкі.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Позірк у мінулае

**6 ліпеня**

1415 г. — на кастры спалены Ян Гус, чэшскі рэфарматар. Народжаны ў 1371 г., закончыў у 1396 г. Пражскі універсітэт і ў 1400 г. стаў святарам. У тым часе ў Касцёле ўзнікалі рэфарматарскія плыні. Адным з найбольш вядомых дзеячаў адновы быў Джон Уікліф і гэта яго погляды стаў раздзяляць Ян Гус. Апрача гэтага Гус выступіў супраць прыгнёту чэхаў немцамі, дабіўся ў 1409 г. у караля чэхізацыі Пражскага універсітэта. Дзейнасць Гуса была ў 1412 г. асуджана касцельнай анафемай. Запрошаны на сабор у Канстанцы, быў там прызнаны ерэтыкам і, нягледзячы на імператарскі жалезны ліст, спалены. Яго смерць давяла да выбуху працяглых гусіцкіх войнаў.

1838 г. — нар. Ватраслаў Ягіч, харвацкі славіст. Пасля завяршэння студыяў у Венскім універсітэце настаўнічаў у 1860—70 гг. у гімназіі ў Заграбе, аднак па палітычных прычынах вымушаны быў пакінуць радзіму і пераехаць у 1871 г. у Адэсу, дзе стаў прафесарам тамашняга універсітэта, а ў 1874 г. пераехаў у Берлін, дзе працаваў загадчыкам кафедры славянскай філалогіі. У 1880—86 гг. быў прафесарам Пецярбургскага універсітэта, а з 1886 г. аж да адыходу на пенсію ў 1908 г. працаваў у Венскім універсітэце. Ватраслаў Ягіч адыграў рашаючую ролю ў фарміраванні міжнароднага зацікаўлення славяназнаўствам. Займаўся ён шырокім дыяпазонам славянскай тэматыкі: ад сучаснай яму харвацкай мовы па даўнейшую старажытнацаркоўнаславянскую.

**8 ліпеня**

1809 г. — нар. Людавіт Гай, харвацкі пісьменнік і нацыянальны дзеяч. Пасля заканчэння студыяў у Вене, Грацы і Будапешце пасяліўся ў 1831 г. у Заграбе, дзе гуртаваліся пранікнутыя нацыянальнымі ідэямі маладыя, як і ён, людзі. Апынулася там і многа палякаў, якія вымушаны былі пакінуць сваю радзіму пасля лістападаўскага паўстання; гэта яшчэ больш узмацняла цікавасць маладых харватаў да сваіх славянскіх вытокаў. Гай лічыцца адным з заснавальнікаў ілірызму — грамадскага руху, які ставіў задачу аб'яднання ўсіх паўднёвых славян ад Трыглава па Чорнае мора. Пачаткам гэтага руху лічыцца 1835 г., калі Гай атрымаў згоду венскага ўрада на выданне свайго часопіса, які ў 1836 г. атрымаў назву „Ілірскія навіны" і перастаў выходзіць на мясцовым, абмежаваным, дыялекце, але перайшоў на дыялект сусvolы большасці харватаў і сербаў; алфавітам уводзімай Гаем літаратурнай мовы стаў алфавіт чэхаў. Улады ў Вене хацелі гэтым чынам падкапаць сілу венграў, пад якіх тады падлягала Харватыя, а таксама адмежаваць растучыя расейскія ўплывы сярод паўднёвых славян; сам Гай вымушаны быў стаць сакрэтным супрацоўнікам канцлера Метэрніха. Улады ў Будапешце бачылі ў ілірызме пагрозу для сваіх імперыяльных мэтаў і яшчэ больш узмоцнілі мадзьярызацыю падуладных сабе славян. Нягледзячы на ўсе цяжкасці і нялоўкую сітуацыю самога Гая, заснаваны пры яго ўдзеле рух стаў важным фактарам яднання паўднёвых славян; слова „Ілірыя", якое не ўсім адпавядала, было пазней выцеснена словам „Югаславія".

**(Ш)**

# Парнасік

### Навука

Родная матуля
Стала дачку павучаці
Як на забаве
Хлопцаў цалаваці.
„Ты слухай мае рады,
не сарамаціся,
Калі спадабаецца хлопец,
Да яго прытуліся".
Дачка словы маці
Так шчыра выпаўняла,
Што калі хлопец спадабаўся,
То яго цалавала.
Так праходзілі дзянькі
Ды гады праляталі.
Дзяўчына ўсіх цалавала,
Яе ўсе кахалі.

**Мікалай Лук'янюк**

### Птушка і яе лёс

Птушка белая,
Птушка шэрая;
Колераў яе не пералічыць.
І кожная хоча жыць.
Заводзіць сваё патомства,
Знаходзіць пару-знаёмства.
Такім чынам птушкі разводзяцца,
У сваіх гнёздах-доміках голыя родзяцца.
Птушкі найбольш у свеце прыгожыя
І характарам сваім розныя:
Пявучыя і мірныя,
І ў сваіх паводзінах дзіўныя.
Яны таксама найбольш з усіх працуюць
І часта гаруюць.
Устаюць найраней,
Лягаюць да сну найпазней.
Злосці цалкам не маюць
І сваю работу дасканала знаюць.
Ратуюць свет ад рознай кашмарнай заразы;
З'ядаюць паразітаў — свайго роду праказу.
Сады, агароды, лясы, палі — цэлы свет,
Гэта птушыны ратавальны білет.
Шкоднікі, драпежнікі птушак знішчаюць,
А не ўсе людзі знаюць,
Што птушка — найбольшы сябра
І жадае нам толькі дабра.
Хімікаліі, тэхніка — ворагі птушак;
І будзем гаварыць шчыра, без „штучак":
Мы віноўныя ў птушыным распадзе —
Вер, не вер, мой дарагі дружа і браце.

**Мікалай Панфілюк**

### Рэкламы-падманы

Штодзень усё гаварылі і пісалі:
збірай коркі з кока-колы!
Калі год і горад алімпіяды
дапасуеш, выйграеш мільярды!
Хто паверыў ды іграў,
толькі нервы сапсаваў.
Фірма ўзнагароды нікому
не дала, хоць многія ў
судзе даказвалі свае правы.
„Star Foods! Star Foods!" — крычалі
Выраж пяць таварных кодаў і
выйграй дарагія ўзнагароды!
Дзеці выразвалі, слалі, і чакалі!
Нават тыя, якім „пашанцавала"
выйграць, дасюль чакаюць.
Узнагародаў ніхто не шле.
Многа такіх конкурсаў-падманаў
аб'яўляюць часта і ўсюды.
Фірмам даюць яны даходы,
людзям прыносяць расчараванне
і шкоду.

**Аўрора**

# Аматары кіно гуртуюцца

Некалькі месяцаў назад у Белавежы, пры Белавежскім асяродку культуры, заснаваўся Дыскусійны фільмавы клуб. Ён перш за ўсё гурте маладых аматараў кіно. На адным з пасяджэнняў у маі г.г. клуб прыняў назву „Кут".

Мае ён ужо нейкія свае дасягненні. Клуб выступіў суарганізатарам агляду творчасці мастака і рэжысёра мультыплікацыйных фільмаў Пятра Шпаковіча, які адбыўся ў днях 16—18 мая г.г. На жаль, жыхары Белавежы выказалі надта малое зацікаўленне дасягненнямі свайго знакамітага земляка. Клуб наладзіў таксама супрацоўніцтва з Нацыянальнай фільматэкай у Варшаве. Члены клуба саставілі спісак архіўных фільмаў, якія хацелі б пабачыць у сябе. Паглядзець старыя фільмы могуць і асобы, якія не належаць да „Кута".

Старшынёй ДФК „Кут" з'яўляецца Малгажата Рыхлік, яе намеснікам — Мар'юш Мінюк.

**Пётр Байко**

# Вер — не вер

Астроне, мне аднойчы прысніўся такі сон. Усе працаўнікі прадпрыемства, дзе я працую, пайшлі на падобнае прадпрыемства, з якім мы даўней супрацоўнічалі. Але цяпер наша прадпрыемства самастойнае. І вось уваходзім мы ў пакой будынка гэтага прадпрыемства. А там стаіць доўгая лава, праз увесь пакой, аж да самага парога. Лава прыкрытая чыстым белым, гафтаваным абрусом. І так ма сталі ў дзвярах пакоя пры канцы тае лавы — я першая, а за мною ўсе працаўнікі. У пачатку тае лавы стаяла кіраўнічка гэтага прадпрыемсвта. Ну, і канец сну. Што ён прадвяшчае нашаму прадпрыемству і ўсім нам?

Астроне, а сяброўцы з работы снілася, што я абрэзала коратка, ды нейк неахайна, асабліва ззаду, на патыліцы, валасы. Валасы сівыя. Яна стаіць і дзіву дзівіцца, што я сабе нарабіла.

**Вера**

Вера! Што датычыцца першага сну, дык ён прадвяшчае, бадай, што на далейшае супрацоўніцтва з тым прадпрыемствам, з якім вы мелі кантакты раней, няма што спадзявацца. Нягледзячы на тое, што лава там была заслана чыстым і белым, гафтаваным абрусам, то, як я зразумеў, упіралася яна ў — дзверы, і ўваход вам — табе і супрацоўнікам — туды быў немагчымы. Бадай, супрацівіца ў гэтым вашым новым сувязям кіраўнічка таго прадпрыемства, якая стаяла як бы на чале тае лавы-запоры.

А што датычыцца сну тваёй сяброўкі пра цябе, дык ён для цябе не надта добры. Калі б валасы былі прыгожыя, доўгія ці густыя, яны б маглі сведчыць аб нейкім прыбытку ці аб тым, што ўсе твае справы пойдуць добра. А ты не толькі падрэзала сабе валасы, але і зрабіла гэта неахайна, абы-як. А яшчэ ж былі яны сівыя. Таму мяркую, што ў тваіх справах не толькі не будзе ані кроку наперад, але можа быць і крок назад.

**Астрон**

# Алімпіяда арнітолагаў

У Вышэйшай педагагічнай школе ў Ольштыне адбылася нядаўна першая частка, тэарэтычная, Арніталагічнай алімпіяды, у якой прынялі ўдзел 42 вучні з чатырнаццаці сярэдніх школ Паўночна-Усходняй Польшчы. Ведаў, якія вымагаліся падчас гэтай алімпіяды, няма ў школьных падручніках, і таму ўдзельнічаць у ёй маглі толькі тыя, хто асабліва зацікаўлены птушкамі. Маладыя любіцелі крылатых мусілі ведаць, у якіх раёнах краіны жывуць паасобныя віды птушак, чым яны харчуюцца, як множацца. Быў таксама фільм, дзе былі паказаны пяцьдзесят птушак і ўдзельнікам алімпіяды трэба было іх распазнаць; найлепшыя назвалі каля сарака. У ліку пяці пераможцаў апынуліся тры вучні Лясного тэхнікума з Белавежы: Данель Давідовіч, Марыюш Такаюк і Роберт Лясэцкі. Неўзабаве адбудзецца другая, практычная частка, дзе маладыя арнітолагі раскрыюць свае веды ў лесе і над возерам.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. фарбуе лакмусавую паперу ў сіні колер, 3. адтуліна ў радужнай абалонцы, 5. папулярная закуска, 7. сукупнасць працэсаў, што складаюць кругаабарот, 9. псаломшчык, 10. аднагадовая расліна, 11. яравая пшаніца, 12. футраныя боты, 14. адходы пасля абмалоту, 16. праснак, 17. стаянка суднаў.

**Вертыкальна:** 1. інструмент для схоплівання, 2. там распальвалі агонь, 3. знешняе пачуццё, 4. шкілет, 6. Валеры, парыжскі камунар, 8. дошка для пераходу праз гразкае месца, 9. пазбягае людзей, 11. паўночна-сібірскае жыллё, 13. багаты нікацінам, 14. духмяная расліна, 15. ніжняя частка мэблі. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 20 н-ра:**

**Гарызантальна:** пляма, баскетбол, пагон, татар, лек, Замбезі, Гіяцынт, КПБ, скрып, панок, цвырканне, мазда.

**Вертыкальна:** вяселле, Пусан, Арбат, багаборац, летуценне, Прайс, ранак, лік, КГБ, праказа, прыём, панна.


Ніва

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. pocz. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1997 r. upływa 5 września 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.




© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Ніўка



Мал. А. КАРПОВІЧА

## Надуманы жарт

— Каго ж ты чакаеш? —
Спытала заранка.
— Каханку чакаю,
Шукаю каханку.
Пажоўклае лісце
Упала ля ганку,
Спытала самотна:
— Чакаеш каханку?
І дождж запытаў,
І нават маланка:
— Каго ж ты чакаеш?
— Чакаю каханку...
Усім гаварыў,
Усім прызнаваўся,
Каханкі сваёй
Не дачакаўся.
Праехала побач
На брычцы цыганка:
— Каго ж ты чакаеш?
— Чакаю каханку.
— Чакаеш каханку?
Не вер ты каханцы,
Яна ў карагодзе,
Яна на гулянцы...
Паслухаў цыганку —
Прысеў я на ганку,
Ды вецер суцешыў:
— Чакае каханка!
Вяртайся, спяшайся,
Не вер ты цыганцы...
Пабег я насустрач
Адданай каханцы.
Пабег, супыніўся,
Нібы ад прыманкі...
Дык гэтага ж каханка
У касцюме цыганкі!

**Сяргей Чыгрын**

## Пакрыўдзіўся

У вагоне метро біткам набіта народу. Перад маладым плячыстым хлопцам, які рассеўся на лаўцы, ледзь стаіць, ківаючыся, старэнькая бабулька. Стаіць даўно, як і даўно сядзіць хлопец. І вось нарэшце хлопец устае і бабулька зняможана не села, а паваліліся на ягонае месца.

— Хоць адзін знайшоўся культурны хлопец, — адазваўся нехта, — бабульцы месца ўступіў.

— А я выходжу, — пакрыўджана гыркнуў хлопец.

**Іван Стадольнік**

## Учарашні боршч

Прытаіўшы ўсмешку ў куточках губ, Марыя дзелавіта перапытала Ганну:

— Не есць, кажаш, учарашні боршч? І мой не ўзяўся б за лыжку, бо ў свежым, сама разумееш, і смак не той, і вітамінаў больш.

— О, о, так і мой заявіў мне ранкам, — уздыхнула Ганна. — З халадзільніка, бачыш, яму ўпоперак горла становіцца. Нібы я сяджу дома без работы і толькі тым і займаюся, што кожны дзень свежыя баршчы вару.

— А ты не вары. Ты ўчарашні ў іншую каструлю пералі і смела стаў на пліту.

— А не здагадаецца?

— Ніколі ў свеце! Па свайму Васілю ведаю. Калі ў добрым настроі, хваліцца: „Такі нюх маю, што выйду за парог і чую: мая маці ў Бершадзе катлеты смажыць".

Вось мне нюх: пазаўчарашнія катлеты ўплятае, аж за вушамі трашчыць. Так што не панікуй, а смела стаў на пліту...

— Што ж, паспрабую.

Праз гадзіну Ганна ўляцела ў суседчыну кватэру.

— З'еў! Поўную міску. Яшчэ і дабаўкі папрасіў. Кажа: „Вось гэта боршч, дык боршч. Не тое, што раніцою".

Вось бачыш.

— А за шапку ледзьве не расцалаваў.

— Якую шапку? — жвава пацікавілася Марыя.

— Тую, што купіла ў сельмагу. За трыста тысяч рублёў. Зірнуў Пятро на цану — закапрызіў: „У такой шапцы толькі вераб'ёў на каноплях пужаць". Дык вось я, пакуль боршч кіпеў у новай каструлі, прышыла да шапкі іншую этыкетку. Ужо на мільён рублёў. „Вось гэта шапка! — кінуўся да люстэрка Пятро. — У ёй і на нараду ў раён не сорамна ехаць. Малайчына, жонка! Навука ў лес не ідзе".

— Што праўда, то праўда, — хітра падміргнула Марыя. — Ты яе ўдала пераняла ў мяне. Яшчэ і далей пайшла.

**Міканор Дубіцкі**

*Пераклаў з украінскай Валеры Бабей*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Жонка да мужа зараз пасля шлюбу:

— Каханы! Гэты цэлы тыдзень будзем есці той самы абед; не заўважыла я, што рэцэпт у кухарскай кніжцы разлічаны на дванаццаць чалавек.

* * *

— Скажы мне, міленькі, яшчэ раз: ці ты сапраўды ажаніўся са мною з любові?

— Ну, падумай: ты ж бедная, брыдкая, дурнаватая... Толькі з любові да цябе!

* * *

— Кахаеш мяне?

— Калі мяне пра гэта пытаеш, я заўсёды паўтараю, што цябе кахаю. Ды падумай вось, чаму ты ніколі не спытаеш, ці люблю я малочны суп, які ты штодзённа варыш мне на сняданне.

* * *

— Табе добра, што ажаніўся: прынамсі не маеш дзірак у шкарпэтках...

— Маеш рацыю! Першым, чаго мяне жонка навучыла, было цыраванне.

* * *

— Зараз пасля шлюбу шторанку будзіла я свайго каханага пацалункам...

— А пасля?

— Праз тыдзень купіў сабе будзільнік.

* * *

Мінулі тры салодкія месяцы пасля вяселля, калі маладая жонка прыкмеціла заклапочанасць мужа:

— Што здарылася, каханы? Ты сёння нейкі такі атарапелы...

— Лепш пра гэта не гаварыць.

— Але ж каханы! Мы шлюбавалі разам дзяліць усе поспехі і няўдачы; можа нечым змагу табе дапамагчы... Помні, што калі ёсць клопаты, яны належаць нам абоім.

— Калі так, дык скажу, што здарылася: наша знаёмая дзяўчына пазвала нас у суд дзеля прызнання нас бацькамі яе дзіцяці.

* * *

— Што за сорам! — лямантуе жонка.

— А што здарылася? — пытае муж.

— Наша дачка выйшла замуж тры месяцы таму, а ўжо нарадзіла дзіця!

— Супакойся. Прызнаю, што дапусціла яна вялікую памылку, аднак другі раз такое ўжо не здарыцца.

## Сардэчныя тайны

Сэрцайка! Сама не ведаю, што рабіць у стварыўшайся сітуацыі. Мо ты мне нешта параіш.

Я — студэнтка. Якраз закончыла паспяхова першы курс і адчувала сябе, як вольная птушка. Сябра з нашай школы (ён закончыў чацвёрты курс) запрасіў мяне і маю сяброўку, якая вучыцца разам са мною, у кавярню. Сядзелі мы і размаўлялі. Раптам на парозе паявіўся яшчэ адзін наш студэнт, ён быў вельмі блізкім сябрам таго хлопца, што нас запрасіў. Яны нават жылі разам на кватэры, а яшчэ не выехалі, бо мелі ў горадзе нейкую практыку.

Быў гэта хлопец, за якім бегалі ўсе дзяўчаты. Прыгожы, халера! Наш сябра кінуўся да яго і запрасіў да нашага століка. Той глянуў, сфрустраваны, на нашу каву, ды кажа: „Не шкада вам марнаваць тут свой час?!" Ён запрапанаваў, што зараз збегае па віно, а пасля паедзем да іх дахаты: там будзе весялей, тым больш, што гаспадароў няма дома.

Так і зрабілі. Хлопцы мелі два пакоі і кухню ў вілле. Асобны ўваход, усе выгады. У адным пакоі мы сядзелі і выпівалі віно. Ініцыятар выпіўкі не надта піў, бо больш яму было ў галаве штосьці іншае. Пачаў ён заляцацца да мяне. Сяброўка была злосная, што не да яе. Яна ўжо яго ведала раней і ён ёй вельмі падабаўся. Зрэшты, лічыла, што ён запрасіў нас „на хату" дзеля яе. А тут на табе!

Не адыходзіў ад мяне, прытуляўся, цалаваў па руках. Урэшце зацягнуў мяне ў другі пакой. Хадзі, паглядзіш, як там, сказаў ён. Зацягнуў падманам і там пачаў абцалоўваць мяне і расшпіляць маю блузку, а я не давалася. Яшчэ чаго! Першы раз бачу чалавека на вочы, а ён тут такое. Я не паспела нават ацаніць па-сапраўднаму яго прыгажосць, а што ўжо гаварыць пра пачуцці, і адразу што, брыкнуць у яго пасцель?! Не, гэтага яшчэ са мной не бывала! А ён надалей амаль зрываў з мяне вопратку, трымаючы мяне моцна ў сваіх абдымках.

Ледзь вырвалася я ад яго і выскачыла ў першы пакой. Сяброўка сядзела там злосная і абражаная, размова з тым першым хлопцам у іх не клеілася. Яна была перакanана, што я аддалася таму хлопцу ў другім пакоі. Я, вядома, не стала яе пераконваць, бо лічыла, што яна мяне ведае, а я так хутка хлопцам не аддаюся.

І, уяві сабе, праз пару дзён яна запрасіла да сябе іх абодвух і яшчэ адну дзяўчыну на „прыватку". А пасля сустракае мяне і кажа: „Ой, каб ты чула, што той хлопец на цябе ўвесь вечар гаварыў!" Я запыталася, у чым справа і што ён мог пра мяне гаварыць, калі мяне амаль не ведае. „Ат, ведаеш, наогул нічога такога. Проста яму было прыкра, што цябе там не было. І таму гаварыў па злосці!"

Мне ўсё роўна было крыўдна. Тым больш — не буду скрываць — што і мне гэты хлопец спадабаўся. Што рабіць? Мо пазваніць да яго і спытаць, чаго ён там начоўп, можа захоча сустрэцца са мной і ўсё выясніць. І будзе, такім чынам, нейкая зачопка. Бо можа здарыцца і так, што мы ніколі больш не спаткаемся, а ён жа мне неабыякавы, нягледзячы на яго вострыя пачуванні. Я б хацела хадзіць з ім, ды толькі не так адразу. Парай, што рабіць, Сэрцайка!

**Аня**

Аня! Я думаю, што ты зрабіла надта добра, не аддаючыся хлопцу пры першым спатканні. Напэўна тады ты яшчэ нічога не адчувала да яго. Зразумела ты гэта толькі пазней, калі страціла тую нагоду. Не раю табе званіць да яго і пытацца, што ён на цябе нагаварыў, бо гэта паставіць цябе ў брыдкім святле пляткаркі, ён будзе яшчэ больш самаўпэўнены і брутальны. Можа лепш было б пачакаць да нейкай наступнай сустрэчы. Калі ты яму сапраўды спадабалася (гаварыў жа пра цябе ўвесь вечар у сяброўкі), дык ён цябе знойдзе. Нікуды ён не падзенецца, нават калі выедзе на канікулы дахаты. Вернецца!

А калі не будзе цябе шукаць, дык грош яму цана. Значыць, гаварыў пра цябе, як пра кожную дзяўчыну, якая не пайшла ў яго на павадку. Тады не будзе хлеба з гэтай мукі.

**Сэрцайка**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014